# КААПЭРАЦЫЯ БССР

## ЧАСОПІСЬ

КААПЭРАЦЫЙНЫХ ЦЭНТРАЎ БССР, БЕЛСЕЛЬБАНКУ І ЎСЕКАБАНКУ

ЖНІВЕНЬ

№ 9–10

1929

МЕНСК





# ЗЬМЕСТ

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# КААПЭРАЦЫЯ Б. С. С. Р.

ДВУХТЫДНЁВЫ ОРГАН
КААПЭРАЦЫЙНЫХ ЦЭНТРАЎ БССР,
БЕЛСЕЛЬБАНКУ і ЎСЕКАБАНКУ

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ
АЛ. КРАСОЎСКАГА, МАТУСЭВІЧА,
ТУМАСА, Г. ХАСКІНА і А. ФРЫДА

ПЕРШЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 9-10

ЖНІВЕНЬ



МЕНСК — 1929

Галоўлітбел № 2329. Зак. № 2816—1500 экз. Друк. „Палесдрук“, Гомель.

# Супроць хутароў, за буйны калгас!

*Адозва ЦК КП(б)Б да ўсіх камуністых, рабочых, батракоў, сялян—бедня-коў і серадня коў*

## Аб правядзеньні дню калектывізацыі

ТАВАРЫШЫ!

Камуністычная партыя высунула задачу—у найбольш кароткі тэрмін дагнаць і перагнаць у тэхнічна-эканамічных адносінах капіталістычныя краіны. Гэта задача спаткала жывы і актыўны водгук сярод шматмільённых мас рабочых, батракоў, сялян—беднякоў і серадня коў ды наогул усіх працоўных нашага Савецкага Саюзу і Беларусі. Рабочая кляса Савецкага Саюзу і Беларусі пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі, абапіраючыся на вясковую беднату і ў цесным саюзе з серадняком пры дапамозе сусьветнага пралетарыяту, пераможна і шпаркім тэмпам працягвае будаўніцтва сацыялізму ў нашай краіне. Рабочыя, батракі і сяляне—беднякі і серадня кі з усёй актыўнасьцю і рашучасьцю падтрымліваюць генэральную лінію партыі ў будаўніцтве сацыялізму, лінію на хуткі тэмп індустрыялізацыі краіны, соцыялістычнае перабудовы вёскі. Шпаркі тэмп індустрыялізацыі нашай краіны і калектывізацыя сельскае гаспадаркі – гэта генэральны шлях будаўніцтва сацыялізму, гэта магутны і рашучы адказ на імпэрыялістычныя замыслы драпежнікаў-капіталістых, якія прагнуць крыві і гібелі першай у сьвеце чырвонай рэспублікі працы.

На ўсесаюзны дзень індустрыялізацыі, з энтузіязмам праведзены рабочай клясай, горача адгукнулася бядняцка-серадняцкая вёска; яна прапанавала правесьці масавы дзень калектывізацыі вёскі. Батрак, селянін – бядняк і серадняк, не жадаючы адставаць у вялікім пачыне ад свайго кіраўніка і саюзьніка—рабочае клясы, пачынае праводзіць „дзень калектывізацыі". І ўсе рабочыя, уся савецкая грамадзкасьць павінны дапамагчы і актыўна падтрымаць гэты добры пачын. Гэты дзень павінен стаць сапраўды днём калектывізацыі, каб гэтым нанесьці яшчэ і яшчэ рашучы ўдар па кулаку і рушыць вёску наперад па сацыялістычным шляху.

Ва ўмовах савецкай Беларусі, дзе сельская гаспадарка пераважна дробная, распыленая і малатаварная, дзе калісьці было вельмі пашырана хутарское гаспадараньне, — колектывізацыя бядняцка-серадняцкіх гаспадарак набывае асаблівае значэньне. Трэба ўзьняць шырокія бядняцка-серадняцкія масы вёскі на сацыялістычную перабудову сельскай гаспадаркі пад лёзунгам: „Супроць хутару і вотрубу! Супроць дробнага пасёлку! За буйныя калгасы, якія павінны ахапіць цэлыя вёскі, раёны".

Вясковыя камуністыя як у „дзень калектывізацыі", так і ў штодзённай сваёй працы павінны ісьці наперадзе, служыць прыкладам і паказам, быць сапраўднымі пачынальнікамі і застрэльшчыкамі калектывізацыі. Камуністыя вёскі, усе ў калгасы! Ніводнага вясковага камуністага па-за калгасам!

Шырокае правядзеньне „дню калектывізацыі" гэта ёсьць справа ня толькі працоўных сялян, але агульная справа рабочае клясы, усяе савецкае грамадзкасьці.

Таварышы рабочыя! Арганізована ўсімі сіламі на дапамогу вёсцы! На змаганьне за новыя формы аграмаджанае працы! У дапамогу калектывізацыі!

Таварышы батракі, бедннякі і серадннякі! Дзень калектывізацыі гэта не „кампанія“, а шырокае разгортваньне масавай упартай працы па сацыялістычнай перабудове вёскі. Арганізоўвайце сотні і тысячы новых буйных калгасаў і пачатковых сельскагаспадарчых аб'яднаньняў, тысячамі ўваходзьце ў іх! Рашуча выкарчоўвайце карэньні капіталізму, наступайце на кулака, цісьніце яго! У гэтым і толькі ў гэтым выхад за таго бядняцкага становішча, у якім яшчэ знаходзіцца бяднейшае маламоцнае сялянства.

Таварышы калгасьнікі! Ператварэце „дзень калектывізацыі“ ў масавы арганізаваны агляд старых калгасаў. Зрабеце ўсё залежнае ад вас, каб узбуйніць іх! Абагульвайце ў іх працу і сродкі вытворчасьці. Павялічвайце непадзельныя капіталы! Рашуча выжывайце ў сваіх радох расхлябанасьць і няўважлівасьць да гаспадаркі! Узьнімеце на належную вышыню агра-тэхнічныя культурныя мерапрыемствы! Пакажэце прыклад і ўзоры сваёй работы перад паасобнай сялянскай гаспадаркай!

Таварышы! Правядзеньне „дню калектывізацыі“ таксама ператварэце ў масавае разгортваньне сацыялістычнага спаборніцтва як унутры, так і сярод калгасаў, саўгасаў каапэрацыйных арганізацый паасобных раёнаў, вёсак і бядняцка-серадняцкіх індывідуальных гаспадарак. Злучэце гэта сацыялістынае спаборніцтва з найлепшым правядзеньнем асеньняе пасеўнае кампаніі, поўнасьцю выканайце пляны па падвышэньні ўраджайнасьці, пашырэньні пасеўных плошчаў, правядзеньні аграмінімуму, стопроцантнай ачыстцы насеньня і гэтак далей. Арганізуйце шырокую ўзаемадапамогу беднаце.

Таварышы рабочыя! Арганізуйце масавую дапамогу і выезды ў вёску праз свае рабочыя брыгады і шэфскія таварыствы.

Таварышы! Злучэце „дзень калектывізацыі“ з масавай праверкай правільнасьці правядзеньня клясавай лініі ў працы ўсіх арганізацый, шчыльней зьяднайцеся наўкол камуністычнае партыі і пад яе кіраўніцтвам узмацнеце сваю ўвагу, актыўнасьць і арганізаванасьць па ажыўленьні працы саветаў, каапэрацыі і ўсіх грамадзкіх арганізацый для сацыялістычнае перабудовы вёскі. Шчыльней злучэце свае шэрагі і дайце рашучы адпор усім вылазкам кулака, разьвівайце сьмела і рашуча наступ на яго.

Цэнтральны камітэт КП(б)Б зварачае ўвагу ўсіх партыйных, камсамольскіх, савецкіх, прафэсіянальных, каапэрацыйных арганізацый і заклікае ўсю савецкую грамадзкасьць—сваячасова і сур'ёзна падрыхтавацца да правядзеньня „дню калектывізацыі“ і прыцягненьня да яго ўвагі самых шырокіх мас насельніцтва. Трэба, каб гэты дзень быў днём ня толькі прапаганды калектывізацыі, але каб канкрэтныя пляны далейшага разгортваньня калгасаў і ўмацаваньня старых былі-б на справе даведзены да кожнага калгаса, каапэрацыйнай арганізацыі, да кожнай вёскі і далі-б самыя лепшыя вынікі ў сацыялістычнай перабудове сялянскай гаспадаркі.

Цэнтральны камітэт КП(б)Б заклікае ўсіх рабочых і працоўнае сялянства вёскі—дзень рэлігійнага сьвята „Прачыстая“ ператварыць у масавы дзень працы, ва ўсебеларускі дзень калектывізацыі, у дзень будаўніцтва сацыялізму.

Усе сілы на правядзеньне масавага дню калектывізацыі!

**Цэнтральны Камітэт Камуністычнае Партыі (б) Беларусі.**

# Узмацнім загатоўкі

Паведамленьні з шэрагу месц паказваюць, што хлебазагатоўкі новага ўраджаю пачаліся, але тэхнічная падрыхтоўка да прыёму хлеба ящчэ ня ўсюды скончана. Неабходны рашучыя меры, якія прывялі-б нізавую загатоўчую сетку ў поўную гатоўнасьць.

Першая задача—гэта сабраць і перараразьмеркаваць насенны матар'ял. Аднак, нельга гэтаю прычынаю тлумачыць паніжэньне якасьці насеньня. Кантракцыйнае зерня павінна быць прынята поўнасьцю і ў час, які паказаны дагаворам. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на сваячасовую здачу лішкаў калгасамі і насеннымі таварыствамі.

Сельскі каапэрацыйны актыў павінен быць упэрадзі па здачы хлебных лішкаў, што будзе служыць найлепшай агітацыяй сярод сялянства. Нізавы загатоўчы апарат каапэрацыі павінен добра зразумець, што галоўнае ў хлебазагатоўках—плянавасьць, што ўся хлебазагатоўка павінна быць скончана да першага студзеня.

Трэба памятаць, што кожным перабоем, кожнаю замінкаю ў працы мы будзем іграць толькі на руку прыватніку. Вось таму трэба ўжыць усе меры, каб роля прыватніка зьвялася да нулю, ня даць яму магчымасьці выкарыстаць у сваіх мэтах ніводнае нашае памылкі.

Ні ў якім разе нельга запамятаць аб барацьбе з нашым клясавым ворагам—кулаком і заможнаю верхавінкаю ў вёсцы. Вялікаю наіўнасьцю будзе, калі лічыць, што кулак, зьбіты пад кіраўніцтвам партыі ў мінулых хлебазагатоўках, заспакоіўся і ня будзе ўносіць новых перашкод. Паведамленьні з месц гавораць аб тым, што кулацкая агітацыя зноў пачынае пашырацца. Гэта патрабуе ад нас разьвіцьця самае шырокае тлумачальнае працы сярод беднаты і серадиякоў, узмацненьня арганізацыі бядняцка-батрацкай часткі вёскі, жанчын і моладзі, згуртаваньня гэтых груп натолькі, каб яны маглі ўплываць на серадняка і разам з тым даць адпор капіталістычным элемэнтам вёскі.

Аб усялякіх перашкодах нізоўка павінна сваячасова сыгналізаваць у вышэйшыя органы, патрабаваць падтрыманьня ад усіх мясцовых арганізацый, ад усяе грамадзкасьці. Асабліва важна ў рабоце па хлебазагатоўках узмацненьне кіраўніцтва нізавым апаратам з боку партыйных арганізацый.

Трэба шырока папулярызаваць ільготы, якія атрымаюць хлебаздатчыкі за якасьць хлеба. Усю работу па хлебазаготоўках перавесьці на мэтад сацыялістычнага спаборніцтва, маючы на мэце датэрміновую здачу хлебных лішкаў.

---

Штэйнбэрг

# Задачы кантрактацыі ў восенскую пасеўную кампанію

У бліжэйшыя дні прыступяць да правядзеньня восенскае пасеўнае кампаніі. Сялянству трэба падрыхтавацца да таго, каб закантрактаваць свае пасевы. Кантрактацыя цяпер набывае асабліва вялікае значэньне.

Дагаворныя ўзаемаадносіны паміж арганізацыямі, якія кантрактуюць, і сялянамі маюць уплыў на плянавасьць у сельска-гаспадарчай вытворчасьці. Мы павінны сеяць толькі, колькі трэба для здавальненьня патрэб насельніцтва.

Але дзяржава ня можа раней улічыць, якую плошчу засеюць індывідуальныя гаспадаркі, якімі мэтадамі будзе апрацована зямля і сабраны

ўраджай, і колькі з яго атрымае дзяржава. Такое становішча вельмі дрэнна адбіваецца на плянавай гаспадарцы, якою зьяўляецца наша савецкая гаспадарка.

Каб узьдзейнічаць на гэтую індывідуальную гаспадарку і дапамагчы плянаваньню, наша дзяржава і завяла контрактацыю.

Далей, контрактацыя аказвае вялікі ўплыў на сацыяльна-клясавую палітыку ў вёсцы. Яна дапамагае бядняцкім і серадняцкім пластом сялянскага насельніцтва ўзмацняць і перабудоўваць свае гаспадаркі на больш высокай тэхнічнай базе.

Каб дасягнуць гэтае мэты, авансы, якія выдаюцца па контрактацыі, дыфэрэнцыраваны па разьмерах для розных груп пасеўшчыкаў з павялічэньнем іх для бядняцкіх гаспадарак і зьмяншэньнем для сераднякоў.

Так, напрыклад, калі на кожны законтрактаваны гэктар азімага жыта серадняку выдаецца аванс у 9 рублёў, дык для бядняцкіх гаспадарак аванс вызначаны ў 10 рублёў.

Апрача таго, бядняцкім гаспадаркам нададзены шэраг ільгот у атрыманьні сродкаў вытворчасьці і аграномічнай дапамогі.

З боку сацыяльна-эканамічнага перад намі стаіць задача, як найхутчэй перабудаваць сялянскую гаспадарку на калектыўны лад. Контрактацыя і дапамагае гэтаму.

Кожны селянін зацікаўлены ў тым, каб атрымаць большы ўраджай, а гэта магчыма толькі шляхам паляпшэньня тэхнікі па апрацоўцы зямлі і збору ўраджаю. Але ня кожны контрактатар паасобку мае сродкі, каб набыць машыну, якая яшчэ каштуе вельмі дорага. Пры арганізацыі групавых засеваў ёсьць магчымасьць набыць машыну цэлаю групаю гаспадароў.

Такім чынам, мы бачым, што складаньне групавых умоў, арганізацыя суцэльных засеваў, сумеснае набыцьцё машын—усё гэта спрыяе і дапамагае пераходу да калектыўных форм гаспадаркі.

Калі пярэйдзем да разгляду выгады контрактацыі для сялянства, дык трэба сказаць, што селянін, які контрактуе свае пасевы, атрымоўвае ад сельска-гаспадарчага таварыства аванс у той час, калі яму асабліва патрэбны грошы. Далей, селяніну, які контрактуе свае пасевы азімага жыта, даюцца на ільготных умовах патрэбныя машыны і штучнае ўгнаеньне, што дае магчымасьць удзяліць асаблівую ўвагу пашырэньню свае плошчы і падвышэньню ўраджаю.

Падагульваючы ўсё гэта, трэба сказаць, што сялянству і савецкай грамадзкасьці трэба добра ўсьвядоміць выключнае значэньне контрактацыі для разьвіцьця сельскае гаспадаркі і прыняць актыўны ўдзел у поўным праведзеньні вызначанага ўрадам пляну контрактацыі і яго далейшым разьвіцьці.

---

З. Левін

# За арганізацыю груп беднаты ў сыстэме сампрамкаапэрацыі

Інфармацыйны матар'ял і рабкораўскія заметкі, якія маюцца на сёньня, гавораць, што сыстэма сампрамкаапэрацыі досыць засьмечана элемэнтам, які прышоў у арцелі толькі для таго, каб уцячы ад пытлівых воч фінінспэктара. Будучы больш прыстасаваным да сваей асноўнай прафэсіі ў мінулым—гандлярства, або спэкуляцыі, ён тут становіцца самым „галоўным", самым „разумным", часта ўваходзіць у кіруючыя органы—праўленьне, а калі туды ён і не ўваходзіць, бо часта ня мае права голасу, дык ён усё-ж-такі фактычна варочае ўсімі справамі: ён і закупшчык, ён і прадавец. Адным словам, як кажуць, „...і касец і пявец і ў дуду ігрэц".

Ад такога становішча фактычна і пачынаюцца ўсе беды. Адгэтуль і кепская якасьць прадукцыі і высокія цэны, адгэтуль у некаторых арцелях неафіцыйнае разьмеркаваньне прыбытку і г. д. Бо такі элемэнт, папаўшы ў арцель, адразу групуе вакол сябе найбольш заможную частку арцельцаў і пачынае весьці падпольную агітацыю: „Цяпер, ведаеце, таварны голад, усё зьядуць. З якасьцю асабліва цацкацца ня трэба, а цану стаўце вышэй. Ня будзьце дурнямі, ня зьбірайце прыбыткі для сампрамсаюзу. Калі ў вас ня будзе, дзяржава вам ня дасьць“. Вось яна, агітацыя варожага элемэнту.

А калі пытаньне датычыцца прыёму ў арганізацыю новага сябра з беднякоў, гэты самы элемэнт пачынае нашоптываць: „Навошта вы яго на сваю галаву берацё“. Такія выпадкі надзвычайна часта маюць месца, асабліва ў арцелях на раёнах. Так, прыём бедняка Пінхасіка, Сыркіна і інш. патрабаваў умяшацельства нават Белсапрамсаюзу. Матыў адказу ў прыёме гэты элемэнт высоўваў такі, што яны некваліфікаваныя працаўнікі. Але высьветлілася потым, што „гэтыя не кваліфікаваныя“ выпушчаюць прадукцыю лепшай якасьці, як яны самі, і больш выпрацоўваюць.

У Шацкай кравецкай арцелі толькі па катэгарычнаму патрабаваньню БСПС былі прыняты два беднякі. Але кіраўніцтва арцелі, пад‘юджанае былым эксплёататарам Бэрнштэйнам, усё-ж такі шкодзіла іхняму прыёму. Яны патрабавалі ад беднякоў неадкладнага ўнясеньня пры ўступленьні ў арцель 75 проц. паю, і нарэшце беднякі былі прымушаны за вялікія проценты заняць грошы, можа і ў гэтага самага Бэрнштэйна, і ўнесьці ў той час, калі само кіраўніцтва, на чале з Бэрнштэйнам, унясло толькі 10-15 проц. паю за паўтары гады знаходжаньня ў арцелі.

Уплыў гэтых былых эксплёататараў вельмі вялікі толькі тады, калі не вядзецца асаблівае працы з беднатой. Як толькі зарганізуецца група беднаты, склікаюцца сходы беднаты, пачынаецца абмеркаваньне шэрагу пытаньняў асноўнай дзейнасьці арганізацыі, найбольш сьвядомая і актыўная частка беднаты толькі тады расчыняе рот і дае факты аб дзейнасьці „былых“ у арцелях, пры чым характэрна, што ўсе гэтыя факты просяць правяраць, ня выкрываючы таго, хто паведаміў. Колькі ні даводзілася мне праводзіць сходаў беднаты, а іх за час перавыбарчай кампаніі ў сакавіку і красавіку гэтага году было праведзена ня менш 50, матар‘ялы, якія даваліся групамі беднаты, заўсёды адпавядалі сапраўднасьцьці, і яны значна дапамагалі пры папярэдняй чыстцы арцеляй ад варожых элемэнтаў і выяўленьні цэлага шэрагу злачынстваў.

Асабліва шмат матар‘ялаў давалі сходы беднаты пры крэдытна-прамысловых таварыствах па пытаньню разьмеркаваньня матар‘ялаў. Характэрна, што да перавыбараў кіраўніцтва крэдытна-прамысловымі таварыствамі (якое, на вялікі жаль, у вялікім процанце складалася з заможных саматужнікаў) імкнулася задабрыць несьвядомую частку беднаты, выдаючы больш нормы тавар і крэдыт. Гэта мела месца ў Смалявіцкім крэдытна-прамысловым таварыстве, калі праўленьне вяло адчыненую агітацыю за недапушчэньне ў склад кіруючых органаў камуністых, і гэтую агітацыю як раз вёў не старшыня крэдытна-прамысловага таварыства, мясцовы багаты кравец, а ён толькі настроіў бедняка Багона, які крычаў: „Калі камуніст будзе на чале праўленьня, дык саматужнікі нічога не атрымаюць“. Але групы беднаты, якія былі скліканы мясцоваю партыйнай ячэйкай, як адзін галасавалі за кандыдатуру мясцовага еўработніка-камуніста, які даказаў сваю працаздольнасьць, і на агульным сходзе ён прайшоў таксама аднагалосна. Тады на чарговае пасяджэньне праўленьня прышоў сам Аўэрбах (былы старшыня-заможнік) разам з Багонам і яшчэ групай падхалімаў. Яны прышлі моцна знэрвованыя, і тут-жа сам Аўэрбах паказаў свой

сапраўдны твар. Ён пачаў крычаць: „Вайнэр—камуніст, пастаўлен ячэйкай, а саматужнікі яго ня хочуць, а таму трэба, каб зрабіць перавыбары“. Бясспрэчна, што ва ўнісон падпявалі яму падхалімы. Сарваць пасяджэньне ім не ўдалося.

Гэта ўсё паказвае, як вядзе варожы элемэнт барацьбу з пэўнай пралетарскай лініяй. Вопыт перавыбарчае кампаніі па 4 раёнах Менскай акругі паказаў, што стварэньне груп беднаты сябе апраўдала, і што праз адпаведныя органы групы беднаты трэба аформіць пры ўсіх арцелях і таварыствах, якія налічваюць 15 чалавек.

---

А. Дубіна

# Аб арганізацыйнай пабудове сыстэмы сельска-гаспадарчай каапэрацыі Беларусі

(*У парадку абгаварэньня*)

У адпаведнасьці з тымі задачамі, якія зараз ўскладзены камуністычнай партыяй на сыстэму сельска-гаспадарчай каапэрацыі, калі арганізацыйная структура і мэтады працы каапэрацыі, у асаблівасьці яе першапачатковых аб'яднаньняў, павінны быць прыстасаваны да задач вытворчага каапэраваньня, калектывізацыі сельскай гаспадаркі і максымальнага ўцягненьня ў каапэрацыйнае будаўніцтва сродкаў самога сялянства, нам трэба так пабудаваць структуру свае працы, каб правадзімыя мерапрыемствы забясьпечвалі і спрыялі калектывізацыі сельскай гаспадаркі, ахаплялі-б асноўныя яе галіны і таварную масу вытворчасьці на вёсцы і паляпшалі абслугоўваньне бядняцка-серадняцкіх каапэраваных і не каапэраваных гаспадарак.

Мы ўзяліся за спэцыялізацыю сельска-гаспадарчай каапэрацыі, пачынаючы з гэтага году, шляхам вылучэньня спэцыяльных саюзаў. Пры гэтым рэарганізацыю ўсяе сыстэмы сел.-гасп. каапэрацыі, у сувязі са спэцыялізацыяй, мы меркавалі скончыць да канца 1929-30 г. Гэтым самым мы зрабілі першы крок па лініі спэцыялізацыі. Некалькі перабудавалі нашую працу на шлях вытворчасьці, але-ж не ахапілі яшчэ арганізацыйна раёну па абслугоўваньню і арганізацыі нізавой сеткі вытворчых каапэратываў—асноўнай галіны сельска-гаспадарчай вытворчасьці кожнага раёну і г. д. Пераносячы сілы, галоўным чынам, на раён для ўзмацненьня і паглыбленьня вытворчай працы спэцыяльных сыстэм сел.-гасп. каапэрацыі, нам трэба ў першую чаргу высьветліць, які мы грунт маем для арганізацыі і далейшага разьвіцьця першапачатковых вытворчых аб'яднаньняў па асобных галінах сельскай гаспадаркі. Усім нам вядома, што наша сельская гаспадарка мае пераважна паляводна-жывёлагадоўчы напрамак, з шырока разгорнутай садова-гароднай гаспадаркай, са значнай таварнасьцю. Калі ў гэтым годзе мы рэалізуем на 8 мільёнаў рубл. садова-гароднай прадукцыі, дык гэта гаспадарка мае вялікія пэрспэктывы ў будучыне. Потым у нас маецца каля 2 мільёнаў гэкт. забалочанае плошчы (20 проц. усяе зямлі), а на 1/VII г. г. налічваецца ўжо 1072 мэліорацыйных таварыстваў з лікам 76.500 членаў, якія ўваходзяць у іх, г. зн. 8,40 проц. каапэраванага насельніцтва, якое каапэравана мэліорацыйнымі т-вамі.

Вось гэтыя чатыры асноўныя галіны сельскай гаспадаркі зьяўляюцца падставай для шырокага разгортваньня масавых першапачатковых вытворчых ячэек сельска-гаспадарчай каапэрацыі.

Падыходзячы да арганізацыі і рэарганізацыі ў некаторых выпадках вытворчых аб'яднаньняў (машынныя т-вы і інш.), трэба працу праводзіць так, каб гэтыя каапэратывы зьяўляліся ў асноўным пераходнай ступеньню да калектывізацыі. Вось чаму таварыствы павінны быць пасялковага тыпу з такім раёнам дзейнасьці, які б даў магчымасьць землеўпарадкаваць пэўную тэрыторыю і на ёй арганізаваць гаспадарку па адзінаму вытворчаму пляну, каб гэта пасялковае таварыства магло зьявіцца базай для калектыўнай гаспадаркі. Напрыклад, калі па ўмовах тапаграфіі і мясцовасьці (рэльеф, глеба і г. д.) магчыма будзе ахапіць будучым калгасам 2-3 тыс. гэкт. зямельнай плошчы, дык статутны памер пасялковага т-ва трэба браць у разьмеры 2-3 тыс. гэкт. Калі-ж па ўмовах мясцовасьці аптымальным памерам плошчы для буйнай гаспадаркі трэба браць плошчу 500-1000 гэкт., дык памерам пасялковага т-ва трэба браць тую-ж самую плошчу.

Такім чынам, у пасялковае т-ва павінна ўваходзіць адна-дзьве буйных вёскі ці група сумежных вёсак і пасёлкаў.

Таварыствы павінны быць аформлены статутам з уласным капіталам і адпаведнымі выбарчымі органамі кіраўніцтва. Як правіла, у вёсцы павінна быць адно пасялковае таварыства, якое зьяўлялася-б, такім чынам, адзінай вытворчай каапэрацыйнай арганізацыяй на вёсцы, а так як наша сельская гаспадарка мае асноўны пераважны напрамак паляводна-жывёлагадоўчы, дык пасялковыя таварыствы ў большасьці павінны быць паляводчаскімі або жывёлагадоўчымі ў залежнасьці ад таго, якая галіна больш разьвіта ў дадзенай мясцовасьці.

Разам з асноўнымі в'дамі пасялковых сел.-гасп. вытворчых аб'яднаньняў там, дзе гэта неабходна па характару гаспадаркі і мясцовых патрэбах, трэба арганізоўваць спэцыяльныя сельска-гаспадарчыя каапэратывы, як садова-гародныя, пчалярскія т-вы і арцелі, птушкаводныя, ільнаводныя, насеньняводныя і мэліорацыйныя таварыствы, якія павінны весьці працу выключна ў адпаведных галінах гаспадаркі. Гэты спэцыяльны каапэратыў, арганізаваны ў аднэй вёсцы або мясцовасьці з пасялковым таварыствам, абслугоўваецца на заключаных дагаворных умовах гэтым пасялковым таварыствам, але ўваходзіць ужо ў свой вышэйшы спэцыяльны зьвянчак.

У першапачатковых зьвенчаках трэба ўстанавіць цьвёрдыя ўступныя і паявыя ўзносы і штогодныя ўзносы ў спэцыяльныя непадзельныя капіталы. Паявыя ўзносы як для членаў, якія ўваходзяць у першапачатковыя спэцыяльныя каапэратывы, гэтак і ў раённыя таварыствы, а таксама і ў раённыя крэдытныя таварыствы,—устанавіць дыфэрэнцыраванымі для паасобных сацыяльна-клясавых груп насельніцтва, па прыкладу спажывецкай каапэрацыі, ад 5 да 40 руб. ад члена з растэрміноўкаю для беднаты.

Кожны член, як правіла, уносіць толькі адзін паявы ўзнос у асноўны першапачатковы вытворчы сел.-гасп. каапэратыў па асноўнай галіне сельскай гаспадаркі для дадзенага раёну. Членства ў гэтым каапэратыве дае права сялянскім гаспадаркам, якія ўваходзяць у яго, на атрыманьне гаспадарчага абслугоўваньня ад усіх іншых вытворчых каапэратываў па неасноўных галінах, з уплатаю толькі ўступнага ўзносу і ўстанаўленьня штогодніх спэцыяльных узносаў у непадзельны капітал. Уступны ўзнос ува ўсіх вытворчых каапэратывах устанаўляецца ў 5 проц. дыфэрэнцыраванага паявога ўзносу. Памер штогодніх узносаў ад членаў у спэцыяльныя непадзельныя капіталы ўстанаўляецца ў залежнасьці ад гаспадарчай моцнасьці сялянскай гаспадаркі і г. д.

Першапачатковыя вытворчыя аб'яднаньні і калгасы аб'ядноюцца потым у спэцыяльныя вытворча-збытавыя раённыя таварыствы адміністрацыйнага раённага цэнтру: паляводныя—у раённыя паляводныя таварыствы, жывёлагадоўчыя і птушкаводныя—у раённыя жывёлагадоўчыя таварыствы, садова-гародныя, пчалярскія т-вы і арцелі—у



раённыя садова-гародныя таварыствы, абапіраючыся, такім чынам, на сваю ўласную нізавую сетку вытворчых каапэратываў. Пры чым тут таксама, як правіла, трэба мець у раёне адно-два вытворча-збытавых таварыствы асноўнай пераважнай галіны сельскай гаспадаркі раёну.

Арганізуючы раённыя вытворча-збытавыя таварыствы, трэба выходзіць з умоў і эканамічнага становішча кожнага раёну, але-ж ня трэба захапляцца колькасьцю раёных арганізацый і патрабаваць стопроцантнае чыстае цэнтралізацыі адміністрацыйнага парадку, што, бязумоўна, дало-б шкодныя вынікі.

Аднэю з галоўных задач раённых таварыстваў павінна быць работа па разьвіцьцю тэхнічнае базы сел.-гасп. вытворчасьці. Мабілізуючы сродкі насельніцтва і першапачатковых аб'яднаньняў, мы павінны будзем шырока разгарнуць будаўніцтва прадпрыемстваў па пераапрацоўцы і захове прадуктаў.

Пераходзячы да акруговых і рэспубліканскіх саюзаў, трэба сказаць, што пастановай ЦК УсеКП(б) ад 27 чэрвеня г. г., вызначана: „сетка раённых аб'яднаньняў (каапхлебаў і гэтак далей) павінна аб'ядноцца спэцыяльнымі абласнымі, а там, дзе гэта мэтазгодна, акруговымі саюзамі“.

У нашых умовах, пры невялічкіх акруговых тэрыторыях, добра наладжанай сувязі з раёнамі, а таксама прымаючы пад увагу агульную ўстаноўку ЦК УсеКП(б) у яго пастанове па арганізацыйнай пабудове сел.-гасп. каапэрацыі, менавіта—стаўка на раён і перасоўка апэрацыйна-гаспадарчых і крэдытных функцый, а зразумела, і сіл для работы ў раёнах, якіх зараз там няма, акруговыя саюзы нам не патрэбны. На час рэарганізацыі ў акругах неабходна заставіць упаўнаважаных па аднаму ад кожнага рэспубліканскага спэцыяльнага саюзу ў адным памяшканьні з адным агульным маленькім тэхнічным апаратам інструктарска-плянавых абавязкаў.

Такім чынам сетка раённых вытворчых збытавых таварыстваў непасрэдна ўжо ўваходзіць і аб'яднаецца спэцыяльнымі рэспубліканскімі саюзамі. Якія-ж павінны быць спэцыяльныя рэспубліканскія саюзы, калі мы гаварылі аб рэарганізацыі?

Першы—Белкалгассаюз, які ёсьць, застаецца і павінен застацца, у які акрамя калгасаў уваходзяць і мэліорацыйныя таварыствы. Для абслугоўваньня мэліорацыйных таварыстваў Белкалгассаюз будзе мець у сваім апараце мэліорацыйны аддзел, а НКЗ павінен перадаць Белкалгассаюзу гідратэхнічны апарат са спэцыялістымі і сродкамі. Раённыя куставыя аб'яднаньні калгасаў павінны абслугоўваць і мэліорацыйныя т-вы, маючы там спэцыялістаў—гідратэхнікаў непасрэдна па вытворчасьці.

Другі—паляводчаскі, у які ўваходзяць паляводчаскія першапачатковыя і раённыя аб'яднаньні па абслугоўваньню культур: лён, каноплі, збожжа, насеньне, бульба і інш. паляводныя культуры. Гэты саюз у кантрактацыі будзе мець пераважнае значэньне.

Па вылучэньні забесьпячальных функцый машынамі і інш. сродкамі вытворчасьці, Белсельсаюз рэарганізуецца ў паляводчаскі саюз.

Трэці—малочна-жывёлагадоўчы, у які ўваходзяць першапачатковыя і раённыя малочна-жывёлагадоўчыя таварыствы і птушкаводныя, які ўжо ёсьць і павінен быць. Гэты саюз мае вялізарнае значэньне, і тут ніякіх спрэчак няма.

Чацьверты—садова-агародны, у які ўваходзяць першапачатковыя садово-агародныя, пчалярныя т-вы і арцелі і раённыя т-вы, і які будзе арганізаваны толькі ў тых раёнах, дзе будзе належны грунт садова-агароднае гаспадаркі.

Пяты—Беларускі крэдытны саюз, у які ўваходзяць раённыя крэдытныя т-вы.

Дзяржаўна-каапэрацыйны беларускі сельска-гаспадарчы банк рэарганізуецца ў Беларускі крэдытны саюз, які ў сваёй працы ўвязваецца з Дзяржбанкам. Ніякай асаблівай ломкі абсалютна тут няма, і тыя жахі, якія раздаюцца вакол гэтага пытаньня, зьяўляюцца або некаторай недаацэнкай ролі каапэрацыі ў рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, або проста непаразуменьнем.

Зусім відавочна і зразумела, што калі раённае каапэрацыйнае крэдытнае таварыства, як спэцыяльная крэдытная каапэрацыя, будзе непасрэдна зьвязана крэдытаваньнем і прыцягненьнем сродкаў насельніцтва па ўсёй пэрыфэрыі вытворчых аб'яднаньняў нізавой сеці, дык, у наступным да вышэйстаячага свайго зьвенчаку, яна павінна ўваходзіць ў свой каапэратыў, г. зн, рэспубліканскі крэдытны саюз. Інакш быць ня можа, інакш будзе разрыў паміж раённымі і рэспубліканскім цэнтрам, у выніку будзе тое, што рэспубліканскія банкі праз галаву рэспубліканскага каапэрацыйнага цэнтру будуць зносіцца з раённым крэдытным каапэратывам, і кожны пасвойму будзе кіраваць вытворчай каапэрацыяй у раёне.

Апроч Белсельбанку, Дзяржбанк ужо сёньня крэдыты на кантрактацыю выдае непасрэдна крэдытнаму т-ву—зьяўляючыся трэцім гаспадаром крэдытнага т-ва. Пагэтаму, для таго, каб у крэдытную працу ўвесьці плянавасьць, адказваць за гэту важнейшую галіну нашай каапэрацыйнай працы абявязкова павінен рэспубліканскі крэдытны саюз сел.-гас. капэрацыі, які ўвязваецца з Беларускай канторай Дзяржбанку, праз якую і будзе ісьці крэдытаваньне ўсяе сыстэмы сел.-гасп. каапэрацыі і перад Дзяржбанкам крэдытны саюз будзе нясьці і адказнасьць за крэдутную працу.

Нарэшце, шостае—Рэспубліканскае акцыянэрнае т-ва па забесьпячэньню сродкамі вытворчасьці сел.-гасп. ў якасьці адзінай загатоўчай і забясьпечваючай сродкамі сел.-гасп. вытворчасьці арганізацыі. Гэта рэспубліканскае акцыянэрнае т-ва не павінна мець па акругах і раёнах сваіх аддзяленьняў або складаў. Само забесьпячэньне сродкамі вытворчасьці будзе праводзіцца праз сыстэму сел.-гасп. каапэрацыі як каапэраванага, гэтак і не каапэраванага сялянскага насельніцтва. Пры арганізацыі акцыянэрнага т-ва самая шчыльная ўвязка сел.-гас. каапэрацыі павінна быць асабліва з ВСНГ, як прадстаўніком прамысловасьці, што выраблäе машыны і сродкі вытворчасьці для сел.-гаспадаркі.

У склад гэтага акцыянэрнага т-ва павінны ўвайсьці ВСНГ Бел., НКГандаль, НКЗ і рэспубліканскія аб'яднаньні сел.-гасп. каапэрацыі. Да гэтай арганізацыі трэба прыступіць зараз-жа.

Рэспубліканскія спэцыяльныя саюзы, у тым ліку і Белкалгассаюз, сваіх саветаў ня маюць. Для кіраўніцтва і плянаваньня працай усяе сыстэмы сел.-гасп. каапэрацыі і калгасаў трэба стварыць савет саюзаў (абраць на бліжэйшым усебеларускім зьезьдзе сыстэмы сел.-гасп. каапэрацыі), які будзе кіруючым цэнтрам сыстэмы сел.-гасп. каапэрацыі БССР з вылучэньнем прэзыдыуму для сталай працы, з невялічкім тэхнічным апаратам. Пры гэтым каапэрацыйную сэкцыю Дзяржпляну, якая ў гэтым выпадку непатрэбна, трэба перадаць цалком Савету саюзаў. Тавараэварот спажывецкай каапэрацыі тагды перадаць эканамічнай сэкцыі, а плянаваньне калгасаў—сельска-гаспадарчай сэкцыі Дзяржпляну. Беларускае акцыянэрнае таварыства „Сельгасзабесьпячэньне“ ў сваёй працы павінна быць зьвязана з Саветам саюзаў у парадку агульнага плянаваньня.

Усё забесьпячэньне калгасаў, каапэраванага і не каапэраванага насельніцтва сел.-гасп. машынамі, трактарамі, мінэральнымі ўгнаеньнямі, насеньнем, сродкамі барацьбы са шкоднікамі, а таксама забесьпячэньне

сел.-гасп. каапэрацыйнага індустрыяльнага будаўніцтва—сканцэнтраваць цалкам у адпаведных спэцыяльных сыстэмах сел.-гасп. каапэрацыі. Забесьпячэньне іншымі таварамі сел.-гасп. вытворчага значэньня ажыцьцяўляецца спэцыяльнымі вытворчымі сыстэмамі сел.-гасп. каапэрацыі толькі ў частцы забесьпячэньня патрэб калгасаў і ўласных патрэб сел.-гасп. вытворчых аб'яднаньняў. Забесьпячэньне іншымі таварамі другіх спажыўцоў ажыцьцяўляецца, як правіла, спажывецкай каапэрацыяй, якая з 1-X г. г. павінна ўзяць гэта на сябе.

Забесьпячальная работа вытворчых сыстэм сел.-гасп. каапэрацыі, у тым ліку і калгасаў, павінна ажыцьцяўляцца на падставе генэральных дагавораў, якія заключаюцца рэспубліканскімі саюзамі з Беларускім акцыянэрным таварыствам „Сельгасзабесьпячэньне", а па тых таварах, з якімі акцыянэрнае таварыства не працуе—непасрэдна з прамысловасьцю і яе органамі.

Каапэрацыйныя цэнтры павінны праводзіць забесьпячальную працу ў парадку транзітнага завозу тавараў з заводу непасрэдна ў раённыя таварыствы. У раённым цэнтры павінен быць адзін склад па забесьпячэньню, з якога абслугоўваюцца па спэцыяльных умовах усе спэцыяльныя сыстэмы сельска-гаспадарчай каапэрацыі і паасобныя не каапэраваныя гаспадаркі раёну.

Потым ня вырашана пытаньне аб тарпяных, агнятрывалых і рыбалоўна-рыбаводных таварыствах і арцелях: каму іх перадаць і хто павінен іх абслугоўваць? Да гэтага часу імі па сутнасьці ведае НКЗ, і каапэрацыяй яны не абслугоўваюцца. Выраб торпу, асабліва больш буйнымі тарпянымі таварыствамі, зьяўляецца камэрцыйна-прамысловым здабываньнем апалу, галоўным чынам для прамысловасьці. У Магілеўскай, Аршанскай і інш. акругах ёсьць нават спэцыяльныя тарпяныя заводы мясцовай прамысловасьці, якія вырабляюць торп. Дзеля гэтага ставіць пытаньне аб тым, каб тарпяныя таварыствы заставіць у сетцы мэліорацыйных таварыстваў, г. зн. пакінуць у сыстэме с.-г. каапэрацыі, гэта—адмахнуцца і зноў не разьвязаць гаспадарчай справы, якая мае вялікае значэньне для народнай гаспадаркі наогул. Гэтым я не хачу сказаць, што саўгасы, калгасы і вытворчыя аб'яднаньні не павінны займацца вырабам торпу на тых тарпяных масывах, якія па блізкасьці прылягаюць да гэтых гаспадарак. Яны павінны выраблять торп для сваіх патрэб, для подсьцілу і ўгнаеньня.

Агнятрывалыя т-вы выробляюць будаўнічыя матар'ялы: цэглу, чарапіцу, пустацелыя камні, кольцы для студняў і інш. Гэта чыста саматужна-прамысловыя таварыствы, якія выробляюць будаўнічыя матар'ялы на продаж. А паколькі ў нас наогул недахоп будаўнічых матар'ялаў, а ёсьць мажлівасьць шырока разгарнуць гэту вельмі важную галіну нашае гаспадаркі, трэба зараз канчаткова разьвязаць і гэта пытаньне.

Рыбалоўства і рыбаводзтва зьяўляюцца ў асноўным саматужным промыслам камэрцыйнага парадку для здавальненьня насельніцтва рыбай, і большасьць арцеляй па рэках і водных каналах ня зьвязана нават і з сельскай гаспадаркай. Дзеля гэтага ўклініваць зноў-жа ў сетку мэліорацыйных таварыстваў толькі таму, што мэліорацыя зьвязана з асушкаю балот ад вады, было-б няправільна. Дзеля гэтага, паколькі ўсе гэтыя таварыствы і арцелі па свайму зьместу і характару іх працы зьяўляюцца саматужна-прамысловымі з прамой камэрцыйнай іх дзейнасьцю, трэба перадаць іх са спэцыялістымі саматужна-прамысловай каапэрацыі.

Праводзячы ў жыцьцё гэту арганізацыйную пабудову, мы адразу натыкаемся на адсутнасьць людзей, галоўным чынам спэцыялістых, асабліва ў раёнах. Па тых грубых падліках, якія мы зрабілі, нам трэба ў 1929-1930 г. розных спэцыялістых 2195, з іх адных толькі аграномаў—536.

Патрабуюцца таксама і вялікія сродкі на іх утрыманьне. Адсюль неабходна самая рашучая перасоўка і спэцыялістых і работнікаў-кіраўнікоў з цэнтральных апаратаў і акруговых цэнтраў на вытворчую працу сельскай гаспадаркі. Справа па падрыхтоўцы каапэрацыйных кадраў пакуль што недастаткова наладжана і не дае належных вынікаў, ня гледзячы на рашэньні і пастановы, якія ўжо ёсьць. У гэтым годзе трэба арганізаваць ня менш як на 300 чал. усебеларускія сталыя кароткатэрміновыя курсы для падрыхтоўкі працаўнікоў калгасаў і вытворчых аб'яднаньняў у раёнах, разгарнуць працу з групамі беднаты і каапэрацыйным актывам, а таксама па лініі саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых для падрыхтоўкі і высоўваньня сел.-гасп. рабочых, батрацтва, беднаты і сераднякоў у вытворчыя нізавыя і раённыя аб'яднаньні каапэрацыі.

Калі мы гэта зробім, дык рэарганізацыю мы можам правесьці на працягу 1929-30 г., пачынаючы з 1 кастрычніка г. г., а мы павінны гэта зрабіць. Наша нізавая сетка на 1 кастрычніка 1928 г. налічвала 2976 аб'яднаньняў з калгасамі і крэдытнымі таварыствамі і ў іх—400 тыс. членаў, што складае 50,1 проц., калі лічыць пайніка за двор. Цяпер на 1 ліпеня г. г. лічыцца 4938 аб'яднаньняў, у тым ліку 1547 калгасаў, 322 крэдытныя таварыствы. Каапэраваньняў 538,1 тыс., або 67,1 проц. сялянскіх двароў, калі кожнага пайніка лічыць за двор. Па папярэдніх ведах сацыяльны склад каапэраваных: 40 проц. беднаты, 55 проц. серадняцтва і 5 проц. заможных і кулакоў.

Гэта гаворыць аб тым, што з 812 тысяч усіх сялянскіх двароў БССР каапэравана большасьць вёскі, большасьць бядняцка-серадняцкіх двароў з значнай колькасьцю беднаты. Нам неабходна з усёй рашучасьцю ўхапіцца за гэты важнейшы зьвянчак нашай працы ўсімі сіламі і сродкамі і выканаць нашу задачу па далейшаму каапэраваньню і калектывізацыі сельскай гаспадаркі.

---

**Ваўкавіцкі**

# На барацьбу з чаргамі, бліжэй да патрэб насельніцтва!

Цяжкасьці, якія мы перажываем цяпер у справе таварнага і харчовага забесьпячэньня, абавязваюць спажывецкую каапэрацыю ўсімі сродкамі і спосабамі ўзьняць на належную вышыню якасьць абслугоўваньня спажыўцоў.

Спажывецкія арганізацыі і ўсе каапэрацыйныя працаўнікі павінны добра ўсьвядоміць усю важнасьць, неадкладнасьць і адказнасьць працы па падвышэньню якасьці абслугоўваньня спажыўца.

Абавязковы мінімум мерапрыемстваў па паляпшэньню абслугоўваньня спажыўца, які раіць Цэнтрасаюз, мае ў сабе пералік самых неадкладных і неабходных мер, якія трэба зараз-жа прыняць для сапраўднага зруху ў лепшы бок нашага дробнага гандлю.

На што асабліва абапіраецца абавязковы мінімум?

На пашырэньне гандлёвае сеткі, лепшую пастаноўку ў справе арганізацыі і тэхнікі гандлю, рацыянальную арганізацыю працы, прыцягненьне грамадзкасьці, павышэньне кантролю і адказнасьці.

Саюзам і ЦРК прапаноўваецца скласьці да 1 верасьня каляндарны плян на 1929-30 год і да 1 сьнежня гэтага году дабіцца пашырэньня

дробнага гандлю сеткі, пераважна праз арганізацыю спэцыяльных магазынаў і палатак. Пашырыць гандаль таварамі, якія хутка псуюцца, шляхам адчыненьня спэцыяльных крам і аддзяленьняў у харчовых магазынах і арганізаваць дробна-гуртовы і палатачны гандаль садавінай і гароднінай.

Не пазьней 1 кастрычніка абавязкова ўвесьці ў практыку і да 1 сьнежня давесьці да патрэбных памераў развозны гандаль таварамі штодзённага попыту ў гарадох (малако, малочныя прадукты, гародніна, хлеб, цукер і іншыя бакалейна-каленіяльныя тавары, газа) для абслугоўваньня рабочых акраін.

Да 1 кастрычніка працягнуць гадзіны гандлю магазынаў:

а) пераходам да 30 проц. усіх магазынаў на паўтара-і двухзьменны гандаль,

б) устанаўленьнем у працягу дню бесьперапыннае працы магазынаў шляхам чаргаваньня перапынку на полудзень,

в) пераходам ня менш 30 проц. магазынаў ЦРК і ТПО на бесьперапынную гандлёвую нядзелю.

Перагледзець гадзіны гандлю магазынаў, сьперша ўстанавіўшы іх на сходах рабочых, з абавязковым зацьверджаньнем іх выканкомамі.

Не пазьней 1 кастрычніка г. г. ва ўсіх магазынах, а таксама на базісных складах ЦРК правесьці ў абавязковым парадку папярэднюю разьвеску ня менш 50 проц. такіх тавараў, як цукер-пясок, мука, крупы, макаронныя вырабы і г. д.

Арганізаваць наступны парадак водпуску нарміраваных тавараў: гандаль нарміраванымі таварамі вытвараць з магчыма большае колькасьці гандлёвых адзінак, арганізаваць іх водпуск з палатак і ларкоў, там, дзе няма прымацаваньня спажыўцоў да магазынаў, устанавіць для водпуску адны і тыя-ж гадзіны ва ўсіх магазынах, прыстасаваўшы гэты водпуск да дзён найбольш ціхага гандлю.

Да 1 кастрычніка арганізаваць разьмяшчэньне ў прадуктовых магазынах тавараў з такім разьлікам, каб тыя прадукты, на якія ёсьць найбольшы попыт, адпушчаліся адначасова з некалькіх месц продажу ў магазыне.

Устанавіць наступны парадак атрыманьня грошай з пакупнікоў: у прадуктовых магазынах з дробным водпускам тавараў спыніць усялякую выпіску прадаўцамі чэкаў на тавар, у дні выдачы нармаваных прадуктаў і ў часе вялікага збою пакупнікоў ставіць дадатковыя касы (рулонныя).

Да 1 кастрычніка правесьці генэральную чыстку магазынаў: устанавіць і правесьці ва ўсіх гандлёвых прадпрыемствах цьвёрды распарадак утрыманьня памяшканьня ў чыстаце, штодзённае прыбіраньне памяшканьняў і тавараў. Устанавіць мыцьцё падлогі і працірку ад пылу вакон, прылаўкаў, столі і інвэнтару.

Арганізаваць да 1 кастрычніка ў буйных ЦРК пераробныя майстэрні, каб забясьпечыць для насельніцтва магчымасьць перарабіць гатовае адзеньне (дробнае за кошт каапэратыву, а буйнае за кошт пакупніка з мінімальнаю аплатаю).

Больш інфармаваць спажыўцоў аб парадку, нормах і часе водпуску тавараў, і ў асаблівасьці нармаваных.

Забясьпечыць рэгулярнае атрыманьне магазынамі нармаваных тавараў з тым, каб спажывец мог атрымаць увесь нармаваны тавар, які яму пакладзены, у любы час, а тавары штодзённага попыту (хлеб, мяса, малако і г. д.) прывозіць да моманту адчыненьня магазыну ў дастатковай колькасьці.

Пераглядзець штат паасобных магазынаў у напрамку зьніжэньня нагрузкі.

Увесьці абавязковае нармаваньне рабочага дню прадаўцоў з такім разьлікам, каб у гадзіны і дні, калі наплыў пакупнікоў вялікі, штат прадаўцоў быў выключна заняты водпускам тавараў пакупнікам.

У мэтах разгрузкі прадаўцоў ад падсобнае працы, якая не патрабуе кваліфікаванае працоўнае сілы, у буйных гандлёвых адзінках не пазьней 1 кастрычніка ўскласьці выкананьне гэтае працы на некваліфікаваных рабочых.

Вось у асноўным тыя мерапрыемствы, якія палепшаць абслугоўваньне спажыўца.

Трэба давесьці абавязковы мінімум да нізавое гандлёвае ячэйкі, да крамы, магазыну. Кожная гандлёвая адзінка павінна вызначыць для сябе плян правядзеньня абавязковага мінімуму. Кожны загадчык магазыну і ўвесь гандлёвы калектыў, кожная крамавая камісія павінны пераглядзець усю пастаноўку гандлю ў краме, магазыне.

Значэньне шырокага прыцягненьня грамадзкасьці да гэтае работы выключна вялікае. Каапэрацыйны актыў у першую чаргу павінен цалкам падыйсьці да практычных мерапрыемстваў па паляпшэньню абслугоўваньня спажыўцоў, да пастаяннае праверкі выкананьня іх загадчыкамі магазынаў і прадаўцамі.

Сацыялістычнае спаборніцтва павінна быць магутным рычагом, абапіраючыся на які трэба рашуча зьнішчыць усе недахопы і паказаць прыклады лепшае працы. Справа абслугоўваньня спажывецкіх патрэб рабочых і ўсяго працоўнага насельніцтва патрабуе рашучага пералому.

Трэба ўсімі сродкамі яго дабіцца!

---

**Агнём рабочае самакрытыкі зьнішчым бюракратызм. Чысткай апарату ад клясавых ворагаў узмацнім сацыялістычнае будаўніцтва, узмацнім абарону Савецкага Саюзу.**

**Наша будаўніцтва сацыялізму—частка сусьветнай рэвалюцыйнай барацьбы. Вышэй дысцыпліну, больш арганізаванасьці ў працы! Усе на сацыялістычнае спаборніцтва!**

# ПРАКТЫКА НАШАЕ ПРАЦЫ

Рэзкі

## Пра інструктаж у сампрамкаапэрацыі

На апошнім зьезьдзе ўпаўнаважаных БСПС, які адбыўся ў ліпені г.г., вельмі востра паўстала пытаньне аб кадрах, гэта значыць, аб тых людзях, якія павінны замацаваць тое, што ёсьць добрага ў сыстэме, і весьці далейшае пашырэньне яе, згодна дырэктыў і пастаноў нашых партыйных і савецкіх органаў.

Усе дэлегаты, пачынаючы ад старшыні БСПС тав. Брыскіна, які ў сваёй справаздачы шмат месца ўдзяліў гэтаму пытаньню, і канчаючы радавым сябром арцелі, у адзін голас заяўлялі, што апарат сыстэмы, у васноўным недастаткова падрыхтованы для ўвядзеньня плянавасьці ў працы для барацьбы за якасьць прадукцыі.

Гэтыя заўвагі знайшлі свой адбітак у рэзалюцыі па справаздачы праўленьня БСПС, дзе першы пункт адзначае недастатковасьць кваліфікаваных працаўнікоў у апаратах як цэнтру, так і саюзаў.

Завастрэньне пытаньня аб падборы „людзей“ зьяўляецца бязумоўна верным, але, на жаль, зьезд нічога амаль што не сказаў аб прычынах адсутнічаньня гэтых кадраў, хто ў гэтым вінен і якія канкрэтныя шляхі намячаюцца ў далейшым дзеля падрыхтоўкі гэтых кадраў.

Прычынамі адсутнічаньня добраякаснага кадру інструктароў зьяўляюцца памылкі, дапушчаныя ранейшым кіраваньнем, ацэнка якога была дадзена пастановай Менскай АК і АКК, зьняўшы некаторых з іх працы і прыцягнуўшых да партадказнасьці. У чым-жа былі памылкі адносна інструктажу па лініі аргпрацы?

На ўсю сыстэму сампрамкаапэрацыі Беларусі плюс непасрэднае абслугоўваньне Менскай і Аршанскай акруг мелася ўсяго толькі 2 інструктары. Зразумела, што ні ў якім разе нельга было плянава абслугоўваць сетку. Сыстэма, якая расла не па днёх, а па гадзінах, была ахвярована на лёс самой сабе. Арцелі ведалі, што трэба толькі абраць сяброў праўленьня, усё роўна—ці маюць яны права голасу, ці не, ім каб толькі былі ў праўленьні „дзяльцы“, якія змогуць загатовіць штамп і пячатку, адначасова шмат вэксальных блянкаў і прывезьці з Менску сукно, падэшву і інш. дэфіцытныя тавары.

А там, у Менску, у аргаддзеле глядзелі на вопратку прыяжджаючых і, калі касьцюм палатаны, бацінкі з дзіркамі, тады магло быць такое праўленьне ўпэўненым, што яно на ўсе 100 проц. атрымае тавар. Ніякіх справак, дакумэнтаў аб сацыяльным становішчы, аб занятках да арцелі ня цікавіла працаўнікоў аргаддзелу.

Калі з 1 кастрычніка 1928 году было вылучана Менска-Аршанскае аддзяленьне і штат інструктароў павялічыўся да 4 асоб, то і тады можна было абслугоўваць сыстэму толькі ў пажарным парадку, гэта значыць, выяжджаць туды, дзе была растрата, злоўжываньне і г. д., аб плянавым абслугоўваньні не магло быць і гутаркі.

Пры чым сам мэтад інструктаваньня насіў характар індывідуальных твораў кожнага інструктара паасобку. Ніякай стандартнай праграмы абсьледваньня ня было. За ўвесь час існаваньня БСПС ні разу ня было

інструктарскай нарады, а калі да гэтага дадаць складанасьць працы ў гэтай сыстэме, дзе інструктару трэба быць добрым працаўніком вытворчасьці, пры чым не ў аднэй толькі галіне вытворчасьці, а амаль што ва ўсіх, як-та: шавецкай, кравецкай, кавальскай, гадзіначнай, пекарскай і г. д. Акрамя гэтага, інструктару трэба быць у арцелі прадстаўніком аховы працы, прадстаўніком палітасьветы, органаў аховы здароўя і страхавой касы ўзаемадапамогі.

Усё гэта было-б зносным калі-б кожны інструктар абслугоўваў ня больш 15-20 арганізацый, але калі яму прыходзіцца абслугоўваць да 60 арганізацый, розных вытворчасьцяў, зразумела, якой якасьці будзе гэта абслугоўваньне.

Да тых шляхоў, якія намеціў зьезд упаўнаважаных па падрыхтоўцы інструктароў праз эканамічнае аддзяленьне Праўгасу БДУ, трэба дадаць перападрыхтоўку існуючага кадру, бо сярод іх маюцца таксама скончыўшыя ВУЗ, пры чым гэту падрыхтоўку трэба весьці шляхам азнаямленьня з працай арганізацыйных аддзелаў і пастаноўкі інструктажа ў 4-х другіх больш старэйшых прамысловых саюзах СССР, арганізацыі курсаў па перападрыхтоўцы, пасылкі на ўсесаюзныя курсы і г. д.

Шляхі паляпшэньня самой інструктарскай працы, па маёй думцы, будуць наступныя:

1. Да таго часу, пакуль ня будуць дастаткова вывучаны саматужныя промыслы і магчымасьць арганізацыі гэтакіх у раёнах, трэба захаваць мэтад абслугоўваньня інструктажам па раёнах.

2. Норма інструктарскага абслугоўваньня павінна быць залежна ад колькасьці арцеляй, якія там маюцца, і працы іх, але, як правіла, ня больш 20-25 арганізацый на інструктара.

3. У зьвязку з пастановаю Ўсекапрамсавету аб неабходнасьці правядзеньня абавязковай штогодняй рэвізіі, інструктар павінен быць у арганізацыі ня менш 5-6 дзён у гаду і стварыць падрабязковую рэвізію абсьледваньня.

4. Пры гандлёвых аддзелах мець спэцаў па шавецкай і кравецкай справах, якія давалі-б кансультацыі інструктаром па ўсіх пытаньнях вытворчасьці гэтых галін.

5. Ня менш аднаго разу ў тры месяцы практыкаваць нарады працаўнікоў аргаддзелу і гандлёвага аддзелу, дзе ставіць справаздачы загадчыкаў і адказных працаўнікоў.

6. Ня менш як раз у паўгода склікаць нарады інструктароў, дзе абгаварваць пытаньні, зьвязаныя з плянамі далейшага росту і перавыбарнай кампаніі, гэта значыць, у чэрвені—ліпені і ў студзені—лютым.

7. Распрацаваць стандартную праграму абследваньня з living рознымі табліцамі, якія маглі-б даць матар'ял для плянавай і статыстычнай частак, ня кажучы ўжо аб гандлёвым і грашовым аддзелах.

8. Практыкаваць экскурсіі інструктароў з актывам арцелі ў тыя гарады, дзе добра пастаўлена праца сампрамкаапэрацыі.

9. Не пазьней 1 кастрычніка г. г. склікаць курсы па перападрыхтоўцы інструктароў з тым, каб у тры-чатыры месяцы прапусьціць усіх інструктароў праз гэтыя курсы.

Пры правядзеньні ўсіх гэтых мерапрыемстваў можна быць упэўненым, што і той кадр інструктароў, які ёсьць, за невялікім выключэньнем, бязумоўна справіцца з усімі тымі задачамі, што на яго ўскладзены, бо гэты кадр хаця і малады, але савецкі па духу і па сваёй працы.

А. Д.

# Вынікі перавыбараў сельска-гаспадарчай каапэрацыі

У першай палове ліпеня г. г. адбыліся акруговыя зьезды ўпаўнаважаных сельска-гаспадарчай каапэрацыі, і скончыліся перавыбары нізоўкі. На гэтых зьездах і сходах былі падсумаваны тыя дасягненьні, якія мае сыстэма сельска-гаспадарчай каапэрацыі за апошнія 2 гады сваёй працы, а таксама адзначаны тыя недахопы, якія ёсьць у працы каапэрацыі.

Сельска-гаспадарчая каапэрацыя, зьяўляючыся сродкам уздыму сялянскіх гаспадарак і перабудовы іх на сацыялістычных падставах, мае шмат дасягненьняў, асноўнымі з якіх зьяўляюцца: нізавая сетка сельска-гаспадарчай каапэрацыі па становішчу на першае ліпеня г. г. састаіць з 4938 адзінак, замест 2976 на першае кастрычніка 1928 г. Прырост аб'яднаньняў за паказаны тэрмін складае 66 проц. і амаль выключна ідзе за рахунак вытворчых аб'яднаньняў (калгасаў, малочна-жывёлагадоўчых, мэліорацыйных, машынных, садова-агародных і інш. таварыстваў); каапэраваньне насельніцтва ўзрастае досыць шпаркім крокам, і на першае ліпеня г. г. усімі аб'яднаньнямі каапэравана 67,1 проц. усіх сялянскіх гаспадарак акругі супроць 50,1 проц. на першае кастрычніка 1928 г. Вызначаны плян каапэраваньня насельніцтва ў гэтым годзе выкананы ўжо на 90 проц., а арганізацыя ўсяе сеткі на 127 проц. Гаспадарчая праца сыстэмы таксама ўзмацняецца, што сьцьвярджаецца наступным: звароты сельска-гаспадарчых крэдытных таварыстваў за першае паўгодзьдзе г. г. па забесьпячальных апэрацыях складаюць 5049 тыс. р. замест 2905 тыс. р. у мінулым годзе. За гэты самы тэрмін і па збытавых апэрацыях—10611 т. р. замест 5625 тыс. руб. Павялічэньне забесьпячальных апэрацый роўна на 74 проц. і збытавых на 85 проц.

Разам з пададзенымі і іншымі станоўчымі бакамі ў працы сыстэмы ёсьць шмат недахопаў, якія зьяўляюцца тормазам да пасьпяховага ўздыму і сацыялістычнай перабудовы сялянскіх гаспадарак. Галоўнымі недахопамі сельска-гаспадарчай каапэрацыі зьяўляюцца:

а) недастатковая ўвага да справы каапэраваньня беднаты, асабліва батракоў;

б) слабасьць каапэрацыйных кадраў, засьмечанасьць іх чужым элемэнтам і недастатковая яго падрыхтаванасьць;

в) слабая грамадзкасьць і недастатковая гаспадарчая сувязь каапэраванага насельніцтва са сваім каапэратывам;

г) у гаспадарчай дзейнасьці сыстэмы займае перавагу гандлёвы ўхіл замест разгортваньня больш шырока вытворчай працы.

Улічваючы адзначаныя і іншыя недахопы каапэрацыі, праца яе павінна быць пастаўлена так, каб у бліжэйшы тэрмін больш пасьпяхова праводзіць у жыцьцё тыя задачы, якія ставяцца перад ёю камуністычнай партыяй і савецкай уладай. Першачарговымі і канкрэтнымі задачамі ў працы сыстэмы на бліжэйшы тэрмін павінны быць:

Пры агульным каапэраваньні насельніцтва ў памеры 67,1 проц. на вытворчыя аб'яднаньні даводзіцца толькі 22,72 проц., а на сельска-гаспадарчыя крэдытныя таварыствы 44,38 проц. Пададзеныя лічбы гавораць аб тым, што ўвага наша да гэтага часу была больш зьвернута на працу сельска-гаспадарчых крэдытных таварыстваў—аб'яднаньняў, якія ў сваёй большасьці праводзяць працу па забесьпячэньню насельніцтва сродкамі вытворчасьці. У далейшым трэба, не паслабляючы працы сельска-гаспадарчых

крэдытных таварыстваў, зьвярнуць больш ўвагі на працу вытворчага каапэраваньня і калектывізацыі сялянскіх гаспадарак, поўнасьцю выканаўшы плян каапэраваньня да канца гэтага году.

Па каапэраваньні беднаты да гэтага часу не наглядаецца сталае плянавае працы, а яна носіць больш кампанейскі характар, чаму сустракаецца шмат ухілаў у гэтай рабоце, як каапэраваньне не бядняцкага насельніцтва за кошт фонду, а таксама няпоўнае скарыстаньне гэтых сродкаў, напрыклад: па становішчу на першае ліпеня г. г. па сельска-гаспадарчых крэдытных таварыствах ёсьць нескарыстаных сродаў 19584 р. На першым месцы па нескарыстаньні сродкаў стаіць Гомельская акруга—4573 р. потым Аршанская—3500 р. і г. д. Такія адносіны да гэтай справы ў далейшым не павінны мець месца. Неабходна гэту працу наладзіць так, каб яна была не выпадковай, для чаго трэба пабудаваць зьнізу да верху плян правядзеньня гэтай працы праз вучот беднаты па кожным неахопленым пункце, з адзнакай, хто каапэраваны і хто павінен быць каапэраваны ў бліжэйшы час. Гэтыя-ж пляны трэба абгаварыць на сходах груп беднаты. Пры складаньні такога пляну трэба зварочваць асаблівую ўвагу на каапэраваньне батрачаства.

З каапэраваньнем бядняцкіх гаспадарак і скарыстаньнем сродкаў на гэту мэту праз вытворчыя аб'яднаньні справа абстаіць яшчэ далёка горш. У мінулым годзе на гэтую мэту было адпушчана 26000 руб.

У далейшым трэба ўскласьці асабістую адказнасьць на тых працаўнікоў, якія кіруюць справай каапэраваньня беднаты, за сваячасовае скарыстаньне гэтых фондаў.

У працы кіруючых органаў, як нізавой сеці, так і акруговых саюзаў, не разгорнута праца з каапэраваным актывам і групамі беднаты. Калі-ж паглядзець на працу рэвізійных камісій, дык тут зусім дрэнна. Па большасьці аб'яднаньняў рэвізійныя камісіі зусім не працавалі, а як вынік гэтага—цэлы шэраг растрат. Па часткова выяўленых дадзеных, ёсьць растраты па 56 сельска-гаспадарчых крэдытных таварыствах на суму 32429 р. Калі правесьці рэвізіі па ўсіх таварыствах, дык растрат будзе больш, а ўсе гэта гаворыць аб тым, што з боку каапэрацыйных органаў недастаткова зварочваецца ўвага на працу па барацьбе з растратамі і ліквідацыяй запазычанасьці, і што гэта праца насіла больш кампанейскі характар. Трэба ўсім каапэрацыйным працаўніком і наогул грамадзкасьці ўявіць сабе, што барацьба з растратамі і запазычанасьцю не павінна зьяўляцца кампанейскай, а гэта праца павінна рашуча вясьціся ў штодзённай практычнай працы.

Батрацтва, якое ўведзена ў час справаздачна-перавыбарчай кампаніі ў кіруючыя органы, павінна прыцягвацца да практычнай працы ў таварыствах, і наогул працу з батрацтвам ні ў якім разе нельга лічыць, як часовую—кампанейскую, а яна павінна насіць у сыстэме сталы характар, і на правядзеньне гэтай працы павінна быць зьвернута асаблівая ўвага ўсіх працаўнікоў сыстэмы с.-г. каапэрацыі.

На жаль, трэба сказаць, што праца ўсіх зьвенчакоў сыстэмы ў сваёй большасьці праводзіцца на сродкі дзяржавы. Праца па прыцягненьні сродкаў насельніцтва не заняла яшчэ адпаведнага месца ў агульнай працы, што можна пацьвердзіць наступным: 1) па плянавых меркаваньнях сельска-гаспадарчыя крэдытныя таварыствы ў працягу 1928 29 каапэрацыйнага году павінны былі сабраць 1673,7 тыс. руб. у паявы і спэцыяльны капітал, а на працягу трох кварталаў выканалі гэты плян толькі ў памеры 38 проц., альбо сабралі 622,8 тыс. руб.; 2) малочна-жывёлагадоўчыя таварыствы выканалі свой плян па збору паявых узносаў толькі ў памеры 32 проц., што складае 115,4 тыс. руб.



Ня гледзячы на тое, што звароты сыстэмы па ўсіх яе зьвеньнях значна павялічваюцца, трэба адзначыць, што яна да гэтага часу недастаткова спрыяла абагуленьню вытворчых працэсаў у сельскай гаспадарцы і насіла больш гандлёвы напрамак. У будучым трэба на гэта зьвярнуць асаблівую ўвагу.

Кантрактацыя да гэтага часу таксама недастаткова скарыстоўвалася для мэт вытворчага каапэраваньня. Неабходна працу паставіць так, каб зрабіць кантрактацыю магутным сродкам вытворчага каапэраваньня і рэарганізацыі дробнае сялянскае гаспадаркі ў буйную абагуленую гаспадарку. Далейшыя посьпехі ў галіне кантрактацыі будуць залежаць ад таго, наколькі нам удасца перайсьці ад заключэньня ўмоў з паасобнымі гаспадаркамі да заключэньня з цэлымі паселішчамі і групай насялёных пунктаў, што будзе ствараць ўмовы калектывізацыі сялянскіх гаспадарак.

Ня будзе памылкаю, калі сказаць, што вытворчыя аб'яднаньні (за выключэньнем калгасаў і малочна-жывёлагадоўчых таварыстваў) з боку саюзаў абслугоўваліся зусім мала, і што ў працы гэтых таварыстваў няма элемэнтаў, якія-б спрыялі ў арганізацыі калектыўнай гаспадаркі, чаму ў будучым неабходна ўзмацніць іх арганізацыйна-гаспадарчае абслугоўваньне з тым, каб у пачатку дзейнасьці кожнага такога аб'яднаньня меліся элемэнты абагуленага гаспадараньня: машынны пункт, агульная клець і пуня, мяльна-трапальны пункт, скарыстаньне складаных машын і г. д.

Склад пайшчыкаў вытворчых аб'яднаньняў таксама патрабуе перагляду ў мэтах выключэньня ўсіх асоб, пазбаўленых правоў.

Арганізацыйнае абслугоўваньне сеткі з боку саюзаў нельга прызнаць здавальняючым як па колькасьці, так і па якасьці. Няпоўнасьцю сетка абслугоўваецца дзякуючы адсутнічаньню дастатковай колькасьці інструктарскага апарату ў саюзах, чаму трэба на гэты бок працы зьвярнуць належную ўвагу. Інструктарскі матар'ял у сваёй пераважнасьці носіць фармальна-рэвізійны напрамак, а праца гэта павінна праводзіцца па шляху пераводу працы сыстэмы на вытворчыя рэйкі, вытворчае каапэраваньне, калектывізацыю, праверку клясавага напрамку працы, рацыяналізацыю, зьнішчэньне растрат, праверку выкананьня дырэктыў праўленьня саюзу і іншых арганізацый, а таксама наладжваньне працы кіруючых органаў таварыства і каапэрацыйнага актыву.

Спыняючыся на паданых вышэй момантах, трэба працу ўсіх зьвенчакоў сыстэмы ўзмацніць так, каб іх выпрастаць і наогул пашырыць працу сыстэмы.

---

Л. Дунец

# Грамадзкае харчаваньне на Беларусі

Ні ў адной мабыць галіне свайго гаспадарчага будаўніцтва Беларуская спажывецкая каапэрацыя ня мела на працягу 1928-29 году такіх значных тэмпаў разьвіцьця, як у галіне грамадзкага харчаваньня, значна абагнаўшы пры гэтым прыросты, якія былі запраэктаваны для гэтай функцыі як кантрольнымі лічбамі, так і першым варыянтам пяцігадовага пляну.

Заслугоўвае ўвагі тое, што паказальнікі росту грамадзкага харчаваньня па БССР па сутнасьці перавысілі адпаведныя паказальнікі па Маскоўскай губэрні: рост звароту па БССР 67 проц., па Маскоўскай губ. 58 проц. Гэта сьведчыць аб тым, што разьвіцьцё грамадзкага харчаваньня на Беларусі ішло пераважна за лік адчыненьня новых сталовых. Гэты напрамак бясспрэчна адпавядаў агульнай неразьвітасьці справы грамадзкага харчаваньня ў БССР, калі колькасны рост сеткі зьяўляўся пагэтаму асноўнай

лініяй работы ў гэтай галіне. Апрача таго, у БССР унутранае пашырэньне прадпрыемстваў грамадзкага харчаваньня магчыма толькі ў парадку капітальнага будаўніцтва з прычыны поўнае адсутнасьці хоць колькі-небудзь прыгодных для гэтае мэты гатовых памяшканьняў.

З боку рабочага насельніцтва гарадоў попыт на прадукцыю грамадзкага харчаваньня надзвычайна вырас, і рабоча-гарадзкая каапэрацыя павінна была, ня лічачыся са сваімі грашовымі магчымасьцямі, значна пашырыць сетку сталовых пры фабрычна-завадзкіх прадпрыемствах і ў рабочых раёнах.

Агульнаму росту вытворчасьці садзейнічала таксама далейшае разьвіцьцё паказальнікаў яго эканамічнага і сацыяльнага прагрэсу.

Разам з тым трэба канстатаваць, што ў нашых умовах тэхнічна некваліфікаванае і разрозьненае сеткі, прадпрыемствы грамадзкага харчаваньня БССР дасягнулі ў 1928-29 годзе ня толькі магчымае нагрузкі, але і па цэламу шэрагу сталовых значнае перагрузкі. Пагэтаму кантрольнымі лічбамі на 1929-30 год узята ўстаноўка на больш паступовы тэмп далейшага разьвіцьця грамадзкага харчаваньня за кошт нармалізацыі і рацыяналізацыі пастаноўкі працы адпаведнае сеткі.

Капітальнае будаўніцтва, якое выканана ў 1928-29 годзе і вызначана на 1929-30 год, стварае магчымасьці для такой нармалізацыі ў кірунку замены шэрагу дробных сталовых больш буйнымі па абхопу і больш удасканаленымі па абсталяваньню. Адначасова дадзена ўстаноўка на далейшае набліжэньне кошту абеду да бюджэту рабочага праз разьвіцьцё сыстэмы разьмеркавальнікаў гатовае стравы пры фабрыках і заводах і далейшае падвышэньне ўдзельнае вагі танных абедаў і абедаў сярэдняга кошту.

Па сельскаму сэктару, які характарызуецца на Беларусі пачатковым па становішчу грамадзкага харчаваньня (тут трэба сказаць, што рост гэтай функцыі быў перарваны ў сельскай і мястэчковай сетцы ўцягненьнем спажыўкаапэрацыі ў гандаль з хлебным віном, што дрэнна адбілася на рэнтабельнасьці сельскіх сталовых па абставінах падатковага абкладаньня), кантрольнымі лічбамі запраэктаваны некалькі найбольш высокія тэмпы прыросту: 29 проц. па сетцы сталовых, 35 проц. па сетцы культчайных і 30 проц. па звароту.

Пры агульным росьце капітальных укладаньняў у справу грамадзкага харчаваньня павінна быць зазначана запраэктаваньне 100 тысяч для сельскага сэктару, а галоўнае, пачатак будаўніцтва першай ў БССР фабрыкі-кухні ў Менску з дзённай вытворчасьцю ў 12 тысяч абедаў.

Пуск гэтай фабрыкі ў 1931 годзе ў корані зьменіць усю справу грамадзкага харчаваньня ў цэнтры БССР і гэтым зробіць вялікія ўплывы на тэмпы далейшага разьвіцьця грамадзкага харчаваньня ўсяго рабоча-гарадзкога сэктару БССР у цэлым.

---

**Ул. Савостаў**

# Перавыбары на Гомельшчыне

На сельска-гаспадарчую каапэрацыю ў часе перавыбарчай кампаніі ўскладалася адказная задача шырокай папулярызацыі пастаноў XVI Усесаюзнай партканфэрэнцыі і разгортваньня практычнай дзейнасьці далейшага ўзмацненьня працы ўсяе каапэрацыйнае сыстэмы, паляпшэньня сацыяльнага складу пайшчыкаў і кіруючых органаў з тым, каб забясьпечыць выкананьне задач у справе сацыялістычнай перабудовы вёскі на калектыўных пачатках.

Наогул, гэта кампанія павінна была зьявіцца масавай праверкай работы каапэрацыйных органаў. Да гэтай праверкі павінны былі быць прыцягнуты батрацка-бядняцка-серадняцкія масы.

Як справіліся мы з гэтымі задачамі ва ўмовах нашае Гомельшчыны?

Перавыбарчая кампанія па Гомельскай акрузе скончана ў першай палове ліпеня г. г.

У перавыбарчую кампанію па 39 с.-г. крэдытных т-вах было праведзена 718 агульных сходаў, у якіх прымалі ўдзел 21.441 пайшчык, альбо 60 проц. з усяе колькасьці 36.547 закаапэраваных сельскіх гаспадарак па акрузе.

Спэцыяльнымі сходамі было абслужана 21,5 проц. агульнага ліку пайнікаў, беднякоў і жанчын 34,5 проц. Трэба адзначыць, што сходы жанчын вызначаліся вялікаю актыўнасьцю.

На раённых сходках наглядалася вялікая актыўнасьць. Беднякоў з агульнага ліку таварышаў, якія выказаліся, было 51 проц.

Склад уноў абраных кіруючых органаў таксама палепшыўся за кошт большага ўцягненьня батрацка-бядняцка-серадняцкай часткі, жанчын, а таксама партыйцаў і камсамольцаў.

Як у часе справаздачных, так і ў часе перавыбарчых сходаў на ўсіх сходах беднаты, дзе прымала ўдзел і актыўная частка серадпякоў, шырока абгаварваліся пытаньні працы т-ва, калектывізацыі, уздыму ўраджайнасьці, вытворчага каапэраваньня, актыўна абгаварваліся пытаньні сацыялістычнага спаборніцтва, а таксама і склад будучага праўленьня.

Ініцыятывай беднаты і паасобных працаўнікоў, актывістых с.-г. каапэрацыі, былі высунуты і такія пытаньні, як устанаўленьне спэцыяльнага ўзносу ад кожнага пайшчыка 1-2 руб. на пабудову складаў для с.-г. крэд. т-ваў. Гэтая прапанова на сходах прымалася аднагалосна.

Перавыбарчая кампанія зьявілася пераломным момантам па ўзмацненьню работы груп беднаты. Быў праведзены вучот каапэрацыйнага актыву, асабліва сярод батрацка-бядняцкай часткі і жанчын.

Уся перавыбарчая кампанія прайшла пад лёзунгам рашучай крытыкі і самакрытыкі, пад лёзунгам, як мага большага пашырэньня самадзейнасьці мас.

Разам з адзначанымі дасягненьнямі перавыбарчая кампанія высьветліла цэлы шэраг і недахопаў: недастаткова абслугоўваліся вытворчыя аб'яднаньні, асабліва з боку агранамічнага пэрсаналу.

Адарванасьць праўленьняў ад свайго раёну дзейнасьці—больш за ўсё было камандыровак у горад і мястэчкі і менш у вёску непасрэдна да пайшчыка. Разам з гэтым недастатковае прыцягненьне сродкаў ад насельніцтва (паі, уклады, спагнаньне пратэрмінаваных пазык).

Нескарыстаньне фондаў на каапэраваньне беднаты, асабліва па вытворчых аб'яднаньнях. Слабае каапэраваньне наогул і недастатковы вучот бядняцкіх гаспадарак.

Слабае ўцягненьне ў працу каапэрацыйнага актыву жанчын і моладзі.

Наглядалася шмат выпадкаў, калі якасьць с.-г. машын не адпавядала запатрабаваньням (экспартныя ільнатрашчоткі аказаліся ржавымі, і сіты прапушчалі адразу ўсё насеньне, плугі гбаліся). Дрэнна захоўваюцца с.-г. машыны ў часе перавозкі, асабліва з боку мясцовага аддзяленьня Дзяржпараходзтва, у выніку чаго машыны т-вамі атрымліваюцца пагбанымі і з бітымі часткамі.

Агульныя сходы рашуча высоўвалі пытаньне пашырэньня дастаўчазарыхтоўчых апэрацый, прыцягваючы да гэтае працы каапэрацыйны актыў, асабліва падрыхтавацца да восенскае пасеўнай кампаніі і зарыхтоўкі хлеба.

Пастаноўка культурна-асьветнай працы была ня зусім здавальняючай.

Вось аб чым гаварылі агульныя сходы пайшчыкаў. Гэта голас 36 тыс. каапэраванага насельніцтва.

Выканаць гэтыя прапановы і зьнішчыць недахопы павінны ўноў абраныя кіруючыя органы с.-г. каапэрацыі Гомельшчыны.

І. Мацьвеенка

# Аб вясковым сэктары прамкаапэрацыі Беларусі

Саматужная прамысловасьць у народнай гаспадарцы БССР займае значнае месца (74 проц. па адносіне да ўсяе прамысловасьці).

Саматужная прамысловасьць і асабліва яе аграмаджаны сэктар папаўняе і ахапляе тыя промыслы, якія поўнасьцю не абхоплены дзяржпрамысловасьцю, асабліва па выпрацоўцы рэчаў шырокага спажываньня.

Параўнаўча за кароткі тэрмін з пачатку 1926 г. па ўсёй сыстэме прамкаапэрацыі БССР каапэравана ў арцельны зьвянчак:

на 1/X—28 г. . . . . . . . . . . 10957 саматужн.
на 1/I—29 г. . . . . . . . . . . 12999 (18,6 проц. узросту).

Па вясковаму сэктару непасрэдна ў вёсцы каапэравана ў арцелі:

на 1/X—28 г. . . . . . . . . . . . 1874 саматужн.
на 1/I—29 г. . . . . . . . . . . . . 2264 (узр. на 20 проц.).

Але тут няма чаму радавацца, бо гэты ўзрост атрымаўся з тае прычыны, што абсалютная лічба ня вельмі значная. Тэмп росту вясковага сэктару зусім невялікі.

На дэфіцытнай сыравіне ў розных промыслах БССР каапэравана ў агульных майстэрнях (арцелях) на 1/I—29 г.—8235, на недэфіцытнай сыравіне—4765, амаль што ў два разы менш.

Як відаць з гэтых лічбаў, саматужная каапэраваная прамысловасьць пераважна да гэтага часу працуе на дэфіцытнай сыравіне, якая ідзе на беларускі рынак больш з іншых рэспублік, у той час, калі ў БССР маюцца вялізарныя запасы мясцовае мінэральнае, расьліннае і іншае сыравіны.

Напрамак, які дадзены прамкаапэрацыі партыяй і ўрадам па ўсіх яе зьвенчаках, ня зусім дастаткова праводзіцца. Прамкаапэрацыя пакуль што замкнулася ад селяніна. Дапамагаюць гэтаму і некаторыя мясцовыя савецкія органы, бо, напрыклад, пры арганізацыі кэрамічнага, вапеннага промыслу, накладаюць высокую арэндную плату за карыстаньне глінай альбо пяском. Гэтым самым яны перашкаджаюць зьмяншаць вясковае беспрацоўе, аграрнае перанасяленьне, а таксама затрымоўваюць вытворчыя сілы нашае рэспублікі.

У гэты час у прамкаапэрацыі маецца вялікі пералом у бок пашырэньня вясковага сэктару прамкаапэрацыі, але за адсутнасьцю крэдытаў вытворчая праграма па выпрацоўцы цэглы і інш. у жыцьцё ня будзе праведзена. Замест 20 млн. цэглін, зроблена пакуль што 10—12, а сэзон канчаецца. Древаапрацовачны промысел асабліва на вёсцы і ў мястэчку з прычыны таго, што ў гэтым годзе водпуск драўніны на карні для прамкаапэрацыі спынены,—Белсампрамсаюз вымушаны ліквідаваць і ўсіх саматужнікаў, у першую чаргу вясковую і местачковую беднату, перавесьці ў др. віды прамысловасьці: кэрамічную, хэмічную і ткацка-мастацкую.

Белсампрамсаюз прыступіў да разьвіцьця вельмі карыснага, які адыграе вялікую ролю ў народнай гаспадарцы,—сьпірытусова-парашковага промыслу, разьвіцьцё якога таксама тэрмозіцца цэлым шэрагам недарэчнасьцяй па загатоўцы асноўнае сыравіны для гэтага промыслу—драўніны і дроў для апалу.

Трэба, каб устаноўленая Лесбелам плата ад пню была зьменшана і гэтым самым даць магчымасьць нармальнага разьвіцьця хэмічнае прамысловасьці, якая пачынае займаць першае месца ня толькі ў народнай га-

спадарцы БССР, але ўва ўсім Саюзе. Пасьля належнага загаду ЭКАНА, Лесбел у гэтым годзе адпушчае але мінімальную норму драўніны, якая поўнасьцю не забясьпечыць пабудовы вызначаных па пляну ў розных мясцох БССР 100 рэторт (казаноў) па сухой перагонцы дрэва пераважна, бярозы, на што патрабуецца ў год 495000 куб. мэтраў драўніны і столькіжа дроў для апалу (асіны і мертвага лесу).

Пры перааапрацоўцы драўніны выходзяць наступныя прадукты:

1) парашок воцатны, трымаючы ў сабе вуксусна-кіслага кальцыя да 62 проц; гэты парашок ідзе выключна для хэмічнае дзяржпрамысловасьці, дзе ён перааапрацоўваецца на воцатную кіслату, вуксусн. эсэнцыю, солі і г. д.: 2) сьпірытус драўняны, які накіроўваецца ў выглядзе сырцу на спірытусоваачышчальныя заводы. Гэтыя заводы ўжо пачалі будавацца ў Менскай, Гомельскай і Мозырскай акругах.

Гэты промысел па свайму эканамічнаму і геаграфічнаму стану мае вялікія пэрспэктывы для свайго разьвіцьця.

Да гэтага часу па ўсёй сыстэме прамкаапэрацыі на арцельных пачатках арганізавана 100 смалакурных катлоў, а таксама каапэравана ў арцелі 65 смалакураў-адзінцаў са сваімі катламі.

Памянёная колькасьць катлоў у дачыненьні да агульнае колькасьці ў БССР складае 45—50 проц., прадукцыя якіх складае 2500 тон шпігінару і 6000 тон смалы ў год на суму 1 млн. 500 тыс. руб. Гэтыя прадукты ў значнай колькасьці экспартуюцца за межы, а таксама ідуць для дзяржпрамысловасьці і рыбацкай каапэрацыі СССР. Разьвіцьцю смалакуранай прамысловасьці і працэсу яе аграмаджаньня ў некаторай частцы перашкаджае дзяржгандаль Беларусі, які бывае падтрымоўвае былога гаспадара-смалакура з кулацкай групы, які выкінуты з нашае сыстэмы, як сацыяльна-чужы элемэнт. Не здарма заможныя смалакуры гавораць: „Нас з прамкаапэрацыі вычысьцілі, а Дзяржгандальбел дае нам крэдыт і працу, выходзіць, што ўаднэй дзяржаве розныя законы". Трэба вырашыць гэтае пытаньне так, каб загатоўцам смалапрадуктаў на рынку БССР зьяўлялася выключна прамкаапэрацыя БССР.

Белсампрамсаюз з пачатку гэтага году сур'ёзна заняўся арганізацыяй промыслаў па вырабу будаўнічых матар'ялаў, а таксама па арганізацыі вапенных арцеляй, прадукцыя якіх часткова ідзе на будаўніцтва і на штучнае ўгнаеньне, што ва ўмовах БССР пры мэліорацыі балот, якія маюць кіслую глебу, бязумоўна, мае вялікае значэньне ў справе ўздыму ўраджайнасьці.

Але з прычыны слабага крэдытаваньня, вытворчая праграма на 20 млн. цэглы знаходзіцца пад пагрозай зрыву (замест 20 млн. цэглы будзе выраблена 10—11 мільёнаў).

Недастаткова разгорнута праца па насаджэньню ў вёсках і мястэчках кавальска-сьлесарных арцеляй па рамонту і выпрацоўцы с/г інвэнтару калгасаў, саўгасаў, трактарных калён і сялянства. Вёска ў гэтай справе адчувае вялікую запатрэбу. Белсампрамсаюз павінен мабілізаваць усе сродкі і спэцыялістых для арганізацыі ў кожным раёне БССР добрай кузьні-арцелі, сваячасова забясьпечыўшы яе мэталем.

Ткацка-мастацкі промысел толькі пачынае разгортвацца. Гэты промысел адчувае недахоп у спэцыялістых, а калі яны ёсьць, дык мы ня можам іх мэтазгодна скарыстаць. З боку працаўнікоў БКПС, адказных за гэтую справу, не вядзецца сыстэматычнае плянавае работы. Ткацка-мастацкія арцелі арганізоўваюцца стыхійна. Вельмі значная сума затрачана на разьвіцьцё мастацкіх промыслаў, а вынікаў пакуль што мала. Тут патрэбен добры кантроль, а галоўнае, зацікаўленасьць на мясцох.

Акруговыя саюзы, як, напрыклад, Віцебскі, каапэруюць саматужнікаў пераважна ў горадзе. У Полацкай акрузе, якую абслугоўвае Віцебскі сампрамсаюз,—справа зусім дрэнная. Тэмп каапэраваньня саматужнікаў Полаччыны праходзіць чэрапашым крокам. Прамсаюз думае, што ў Полаччыне, акрамя шавецкіх, кравецкіх і панчошных арцеляй, нічога нельга арганізаваць.

У Полаччыне, бачыце, мала пяску і гліны для арганізацыі агнятрывалага промыслу. У Полаччыне не хапае ткачых-бяднячак для ўцягненьня іх у каапэрацыйныя арцелі.

Ц. К. КПБ правільна пастанавіў аб стварэньні інстытуту ўпаўнаважаных у тых акругах, дзе няма саюзаў. Трэба сказаць, што гэта пастанова на справе апраўдалася. Палепшылася абслугоўваньне саматужнай масы, узмацнілася кіраўніцтва партыі, як у справе вытворчасьці, так і ў пытаньні клясавай палітыкі па каапэраваньню беднаты.

III Усебеларускі зьезд прамкаапэрацыі, які адбыўся ў ліпені г. г., вызначыў шляхі па ўзмацненьню і пашырэньню вясковага сэктару прамкаапэрацыі на мясцовай сыравіне.

Яго пастановы неабходна ў бліжэйшы час правесьці ў жыцьцё.

**За індустрыялізацыю краіны, за ўздым і калектывізацыю сельскай гаспадаркі. Выканаем пяцігадовы плян сацыялістычнага будаўніцтва. Разгорнем сацыялістычны наступ у горадзе і вёсцы.**

**Кожны посьпех рабочых і сялян у сацыялістычным будаўніцтве—новы крок да ўзмацненьня абараназдольнасьці СССР, новы ўдар па сусьветнаму капіталізму. Няхай жыве Савецкі Саюз—бацькаўшчына міжнароднага пралетарыяту!**

# НА МЕСЦАХ

Сьпір. Міхальцоў

## Каапэрацыя Полаччыны на правільным шляху

Некалькі слоў пра становішча каапэрацыйнай працы як у горадзе, таксама і на вёсцы ў Полацкай акрузе.

### Работа Полацкага ЦРК

Работа Полацкага ЦРК за апошнія часы значна ўзрасла і палепшылася. Калі ў мінулыя гады меўся цэлы шэраг недахопаў, дык яны зараз паступова зьнішчаюцца. Уся праца праходзіць пры цеснай сувязі і дапамозе прафэсыянальных і гаспадарчых арганізацый.

Больш увагі было ўдзелена пытаньням падвышэньня якасьці абслугоўваньня спажыўцоў, пашырэньню каапэрацыйна-асьветнай працы шляхам арганізацыі спэцыяльных вечароў, курсаў, дакладаў, справаздач, з шырокім удзелам працоўных мас насельніцтва.

Рост пайшчыкаў значна пашырыўся. Калі на 1 кастрычніка 1928 г. лічылася 85 проц. каапэраваных сяброў прафсаюзаў, дык на 1 чэрвеня мы маем 91 проц. Павялічыўся і сярэдні пай, які ўжо складае на 1 чэрвеня 12 р. 09 кап. на кожнага пайшчыка, што гаворыць аб вялікім дасягненьні ў нашых умовах.

Гандлёвая дзейнасьць ЦРК звадзілася да пашырэньня гандлёвай сеткі, да арганізацыі тэхнікі гандлю, да здавальненьня таварамі першай неабходнасьці і да ахопу ўсіх працоўных дзейнасьцю ЦРК. За пэрыод 1926—29 г. г. колькасьць магазынаў павялічылася. На 1 кастрычніка 1926 г. было 19 адзінак, на 1 кастрычніка 1927 г. ужо налічвалася 24, а на 1 ліпеня г. г. маецца 42 магазыны. Апрача гэтага, у чырвонаармейскіх лягярох ёсьць 13 гандлёвых адзінак.

Зварот па продажу тавараў павялічыўся: за 1925-26 г.—1.869.331 р., за 1926-27 г.—2.327.097 р., за паўгода 1928-29 г.—1.972.251 руб. 40 кап. Накладныя выдаткі паніжаюцца з кожным годам.

Некалькі слоў аб рабоце вытворчых прадпрыемстваў. Хлебапечкай выпушчана прадукцыі: у 1927-28 г.—на 273.483 руб. 41 к., а за 1-е паўгодзьдзе 1928-29 г.—на 121.542 руб. 88 кап. Зварот сталовай № 1: за 1925-26 г.—110.559 р. 62 к., 26-27 г.—91.584 руб. 74 кап., 27-28 г.—113.485 р. 88 к., за паўгодзьдзе 1928-29 г.—119.964 р. Адсюль відаць, што работа вытворчых прадпрыемстваў ЦРК узмацнілася і ідзе поўным ходам.

Нельга не адзначыць культурна-масавай і бытавой працы ЦРК. Калі ў мінулым годзе мелася адна дзіцячая пляцоўка на 40 асоб, дык зараз—2 пляцоўкі на 85 дзяцей. Ставіцца пытаньне аб арганізацыі сталага дзіцячага саду на 50 асоб, што дасьць вялікую карысьць спажыўцом.

Побач з арганізацыяй пляцовак была створана спэцыяльная школа кройкі і шыцьця, разьлічаная на 25 асоб; яна працавала роўна 3 месяцы і дала добрыя вынікі. Праз гэтую школу пайшчыцы пазнаёміліся з разьвіцьцём, з гісторыяй рабочай каапэрацыі.

Праўленьнем былі арганізаваны курсы па перападрыхтоўцы прадаўцоў, якія скончыла 43 асобы. Курсы многа палепшылі кваліфікацыю, што

дае вялікі посьпех у штодзённай працы каапэрацыі. Таксама адбыліся курсы каапэрацыйнага актыву, якія ўвесь час наведваліся 18 асобамі.

Адбылося 2 канфэрэнцыі жанчын-пайшчыц і 8 сходаў каапэрацыйнага актыву, дзе разглядаліся бягучыя пытаньні, галоўным чынам аб паляпшэньні дзейнасьці ПЦРК. Пры гарадзкім дэлегацкім сходзе ўвесь час існавала каапэрацыйная сэкцыя, якой ахоплена больш 30 дэлегатак-работніц. Дэлегаткамі былі абсьледваны сталовыя, хлебапякарні, мясныя крамы.

Ня так даўно ў горадзе адчынена прыкладная сталовая, якая абсталёвана вельмі добра і адпавядае свайму прызначэньню.

Да гэтага часу ў ЦРК былі чужыя людзі, якія сваёй працай фактычна шкодзілі ў разьвіцьці каапэрацыі, але ў сучасны момант (асабліва ў сувязі з чысткай саваппарату) гэтае становішча зьнішчаецца. Замест былых людзей, вылучан шэраг рабочых ад варштату, якія зараз зьяўляюцца ў сваёй большасьці загадчыкамі магазынаў, гандлёвых крам. Сярод вылучэнцаў праводзіцца сыстэматычная праца, галоўным чынам па набыцьцю добрай кваліфікацыі, каб поўнасьцю выканаць усе запатрабаваньні пайшчыкаў, працоўных гораду.

## Становішча сельска-гаспадарчай каапэрацыі Полаччыны

Кожнаму з нас вядома, што задачай сельска-гаспадарчай каапэрацыі ў вёсцы зьяўляецца перабудова старой, адсталай вёскі на новы сацыялістычны лад. Дырэктывы камуністычнай партыі і савецкага ўраду яскрава гавораць аб гэтым.

Рост сельгаскаапэрацыі павысіўся. Па становішчу на 1 красавіка 1929 г., па Полаччыне лічылася нізавых аб'яднаньняў па сельгаскаапэрацыі 238 адзінак, замест 123 на 1 кастрычніка мінулага году. Сельгаскаапэрацыяй ахоплена 34.199 гаспадарак, галоўным чынам бядняцка-серадняцкай часткі насельніцтва.

На працягу 1927-28 г. крэдытнымі таварыствамі каапэравана за рахунак фонду 1816 бядняцкіх гаспадарак, на што было адпушчана 9392 руб. 36 кап. У час 1928-29 г. на каапэраваньне беднаты адпушчана 13.214 руб., якія ўжо скарыстаны амаль што цалкам.

Цікава сказаць пра грашовае становішча. Па гадавых справаздачах, 18 таварыстваў скончылі апэрацыйны год з прыбыткамі ў разьмеры 23.787 р. і 7 таварыстваў—з стратай 4401 руб. Сума балянсу ў сярэднім на одно таварыства на 1 кастрычніка 28 г. складала 93.100 руб. Сярэдні пай на каапэраваную гаспадарку на 1 кастрычніка 27 г. быў 4 р. 31 к., зараз 6 р. 30 к.

Гаспадарчая дзейнасьць сельгаскаапэрацыі павялічылася і прыняла шырокія памеры. Лічбы паказваюць, што агульныя звароты ў сярэднім на адно таварыства ў 1927-28 г. павялічыліся супроць зваротаў мінулых гадоў. Павялічэньне зваротаў на 48,8 проц. ў асноўным можна аднесьці за рахунак павялічэньня нарыхтоўчых апэрацый, якія ў дзейнасьці сельгаскаапэрацыі займаюць адно з пачэсных месц.

Праца па кантрактацыі не адстае ад іншых галін дзейнасьці, якую праводзіць сельгаскаапэрацыя. Так, у адным толькі гэтым годзе закантрактавана ільна-валакна 4000 гэктараў, канюшыны 700 гэкт., ільна-насеньня 4000 гэкт., аўсу 1000 гэкт., ячменю 300 гэкт., караньплодаў-насеньня 10 цэнтн., што кажа аб вялікай працы па кантрактацыі.

Малочна-жывёлагадоўчая каапэрацыя ў Полаччыне зьяўляецца вельмі маладой, новай арганізацыяй. Вось чаму на 1 кастрычніка мінулага году лічылася ўсяго толькі 6 аб'яднаньняў, а на 1 красавіка г. г. маецца 36 адзінак, якія значна пашырылі сваю працу сярод насельніцтва.

У сучасны момант сельска-гаспадарчая каапэрацыя Полаччыны разгарнула шырокую працу па падрыхтоўцы да восенскай пасяўной кампаніі. Праводзяцца агульныя сходы насельніцтва з дакладамі аб карысьці пад вышэньня, узмацненьня сельскай гаспадаркі, аб поўным каапэраваньні бядняцка-серадняцкай часткі сялянства, якая яшчэ часам не разумее карысьці гэтай надзвычайна важнай справы. Наогул на гаспадарчы фронт зьвяртаецца вялікая ўвага.

Адсюль вынікі: сельгаскаапэрацыя нашай акругі з посьпехам перабудоўвае вёску на новы савецкі сацыялістычны лад, вядзе рашучую, нясупынную барацьбу супроць старой, адсталай вёскі, за лепшае, сьветлае.

---

Ісэрліс

## Сьвята нашага калектыву

У 1924 г. арганізаваўся ў Бабруйску наш першы вытворчы калектыў шапачнікаў. Калектыў быў арганізаваны з 28 чал. саматужнікаў, якія ўнесьлі ў лік паявых узносаў па 50-70 руб. гатовымі вырабамі.

Зваротных сродкаў доўга пасьля арганізацыі калектыву не хапала, крэдыты не даваліся, Акрсампрамсаюзу яшчэ ня было $1^1/_2$ гады, і зразумела, што праўленьню цяжка было наладзіць працу і паставіць калектыў на належную вышыню. Зарплата была вельмі нізкая (15-16 руб. у м-ц). Найменш сьвядомая частка калектыву, якая ня прывыкла яшчэ да калектыўнай працы, спалохалася часовых цяжкасьцяй, і праз паўгода пасьля арганізацыі добраахвотна выбыла 9 чал., а 4 было выключана за дробна-буржуазны настрой.

Такім чынам, найбольш сьвядомыя 15 членаў калектыву на чале з працаздольным праўленьнем узялі на сябе адказную задачу пабудаваць калектыў на сапраўдных каапэрацыйных пачатках.

Цяпер калектыў налічвае 22 члены.

Па сацыяльнаму становішчу: 10 чал. ранейшых членаў саюзу, а астатнія—саматужнікі. Старэйшаму члену калектыву 75 год, ён ўжо 61 год працуе на вытворчасьці, ніколі не эксплёатаваў чужую працу і цяпер да працы адносіцца добрасумленна.

За апошні час значна вырасла вытворчасьць працы. Дзякуючы арганізацыі груп маецца вялікая рацыяналізацыя, вытворчасьць працы павялічана на 15-20 проц., кваліфікацыя членаў калектыву значна ўзрасла. Ёсьць вытворчая камісія, дзякуючы якой значна палепшылася якасьць вырабаў. Адносіны да вытворчасьці добрыя.

Калі паглядзець на грашовае становішча, дык і тут мы маем нямалыя дасягненьні. Паявога капіталу на 1 ліпеня мы маем 4.063 руб. 38 кап. і ўласнага—3.667 руб. 37 кап. Пры бытку бягучага году ёсьць 4.349 руб. 69 кап. З 1 мая праведзена 5-проц. зьніжэньне на адпускныя цэны гатовых вырабаў. Палепшылася таксама і матар'яльнае становішча членаў, сярэдняя заробчая плата ўзрасла да 100 руб. у м-ц. Цяпер ужо ахоплены амаль увесь рынак. Дзякуючы Сампрамсаюзу ёсьць многа масавых заказаў.

Калектыў разгарнуў і грамадзкую працу. Амаль усе члены калектыву зьяўляюцца членамі Мопру і Озету. На 2-ю пазыку індустрыялізацыі калектыў падпісаўся на 115 проц. месячнае заробчае платы і цяпер аблігацыі здаў на калектыўнае захаваньне. На 3-ю пазыку індустрыялізацыі падпіска яшчэ ня скончылася, але яна ўжо перавысіла месячную зарплату.

Як дасягненьне, трэба адзначыць, што члены калектыву адмовіліся ад рэлігійных забабонаў і выхадны дзень замест суботы перанеслі на панядзелак. Калектывам выпісваюцца газэты, у майстэрні адбываецца калектыўная чытка.

Так паступова разгортваецца работа нашага калектыву.

---

Макар Валацуга

# Па каапэрацыйных ухабах

(*Дарожныя нататкі Макара Валацугі*)

Чыстцы каапэрацыйных апаратаў прысьвячаю.

... Я не дайшоў да Пухавіцкага спажывецкага таварыства. На Мазыршчыне мне зрабілася во як нядобра! Мяне кінула перш у холад, а потым у гарачыню. І от гэтак у перамешку— то холадна, то горача пачало рабіцца. Але як стане горача, дык агонь, здаецца, жывы агонь—шыбае, шыбае мне ў мае вочы!

— Гэта-ж я мусіць захварэю,— памысьліў я сам сабе, захварэю і не намякну нават праўленьню Капцэвіцкага спажывецкага таварыства, што дваццаць пятага-шостага гэтага году быў суд тварыша Гарадзецкага за „дробязныя" каапэратыўныя справы, натвораныя пры яго ранейшай службе. І што гэты суд прысудзіў яго, Гарадзецкага, на шэсьць месяцаў. І што— па амнісьціі яму даравалі. І тое, што праўленьне забылася, мусіць, на ўсё гэта і цяперака ізноў абрала Гарадзецкага ў галоўныя крамары.

О, так і не скажу я! Мне зусім робіцца млосна. Кругом ідзе мая галава. Праймае мяне потам. Гэты пот замярзае на мне. Я зусім губляю прытомнасьць і мне мітусіцца, як скроз туман, у маім выабражэньні, у маёй памяці . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Я, здаецца, у краме № 2 Клімавіцкага спажывецкага таварыства, на Клімаўшчыне, у хаце Воранава. Дык у гэтай краме-хаце мне нейкі, аднекуль ідучы „дух"—аж нос зрывае. Але-ж во-во, здаецца, сарве і панясе мой нос няма ведама куды і што і за што. Да таго-ж тут „дух-пах"! А тавары, здаецца, ляжаць дагары нагамі, шурам-бурам, сюды-туды, у лукатні ў мітусьні. Але ўсёроўна-ж ляжаць. Дык я, здаецца, кажу да Воранавай М., да крамара—„дайце мне калі ласка, сяго-таго: цукерак мятных хоць-бы".

А яна некуды сьпяшаючыся:

— Татка, ідзеце сюды, а то я выходжу,—ідзеце дайце гэтаму чалавеку.

А калі я стаю, кладу ў кішэні ўзятае то сёе, то тое ад „таткі", калі некалькі чалавек прышло і ўзяло і панесла некалькі фунтаў селядцоў па дваццаць капеек за фунт, дык „татка" тады пытае:

— Па чым ты, старая, прадавала гэтыя селядцы?—Гэ, чуеш?

І „старая" адказвае з другой палавіны хаты:

— Па восемнаццаць капеек...

— А я думаў—па дваццаць,—мармоча „татка" сам сабе,—на раду-б яны ня ведалі.

І цяпер ужо ён адпускае, бярэважыць іх—па восемнаццаць.

А „пах"—яшчэ большы „пах" нясецца і ці не ад селядцоў толькі...

І вось я нібыта аж на Магілеўшчыне, аж каля Хлаўнянскага спажывецкаго таварыства сустракаю на падводзе, з фурманом, старшыню праўленьня гэтага таварыства.

— Дзіндобры!—кажу.

— Дзіндобры!—адказвае.

— Куды едзеце самі?—пытаю.

— А вось сюды—паказвае на вёску за паўтары вярсты ад таварыства.

— Нагружаць—класьці, мусіць, невашта,—пытаю,—будзеце?

— Ды не: падводы трэба ўгадзіць, каб за таварамі ехалі.

— Аг-гга,—кажу.—А як цяперака падводы,—дарагі ці не?

— Дзіва, што дарагі,—адказваюць мне „самі",—вось колькі-ж тут—вярсты паўтары, ня больш, а паўтара рубля. „Не магу, кажа, дзешавей. Рабочая пара, выбоістая дарога і ўсё такое". Ну, то што я павінен рабіць?

— Бывай здароў!—кажа мне старшыня і едзе.

— Паедзьце здаровенькі,—кажу я і іду. І вось ужо аж ідучы, аж адышоўшыся ўспамінаю, набягае мне на маю памяць, што старшыня Хлаўнянскага таварыства, што гэтыя „яны

самі"—любяць езьдзіць. Адным словам, любяць праехацца—вво!

Мне здаецца, саўсім дрэнна са мною. Я, здаецца, ня тое, што ў агні, і от так сабе—у звычайным, а ў агні, у жорале раскаленай печы! Так што я цяпер, канешне, хворы. І я цяпер невядома калі ачуняю. А як бы мне хацелася пабываць у Хоцімскім спажывецкім таварыстве на Магілеўшчыне! Як бы мне хацелася пабываць у крамара Эскіна Лейбы, у таго самага, што раней быў буйным гандляром і быў пазбаўлен правоў голасу! Ён так умее ўладжаваць—устройваць людзей! Эскін, Эскін! Ён і сына прыладзіў у Хоцімскім таварыстве, ён і зяця, Ліўшыца прыстроіў загадчыкам Забяльшанскага спажывецкага таварыства, таксама—буйнага арандатара маёнтку, пазбаўленага выбарчых правоў. А Ліўшыц, ужо ў сваю чаргу, прымеркаваў, а потым і прыстроіў у крамары да сябе і сваю жонку.

Дык як бы мне хацелася пабываць, можа-б яны і мяне ці ня прыстроілі б? Няхай-бы я ўжо не валачыўся. А то і хвароба мо' цераз гэта. Ведама: і ўпацееш ідучы, а потым—нап'ешся потны. Дык дзіва, што пасьля ўсяго гэтага будзе табе то холадна, то горача. Дзіва што!

І от мне цяпер чуваць і, мусіць ад маёй гарачкі, чуваць у маім вушшу грамафонная ігра. Мне здаецца, што ў хаце старшыні Севасьціянчыка, Князь-Возерскага спажывецкага таварыства, на Бабруйшчыне, стаіць грамафон. Стаіць і іграе:

Последний нонешний денё-о-че-эк
Гуляю с вами я, друзья . . .

І я, здаецца, слухаю і разважаю сам сабе:

— Чаму гэты грамафон, куплены на каапэратыўныя сродкі для хатычытальні, так мала паіграў гэтай хатечытальні? Так мала паіграў і ўжо нават папсуты, з большага мяне нават аж бярэ дзіва?

Але я не пасьпяваю дзівіцца, як мая гарачка перакідае мае вобразы, маё ўяўленьне аж на Старобіншчыну, аж у мястэчка Пагосьце, аж у краму № 2, аж да крамара Ханіч. Дык я заходжу ў краму і бачу:

Усе пакупацелі разьдзелены на дзьве бурсы. Адны стаяць каля прылаўку, а другія сядзяць за прылаўкам на новых, што прывезены для продажу—вэнскіх крэслах. Ханіч да тых, што сядзяць на крэслах, кажа:

— Калі ласка! У нас тавару—на выбар. Так што вы мяне, будзьце ласкавы, выбачце...

— А-а!—Заходзьце, заходзьце сюды,—і Ханіч сьвежаму, адборнаму, толькі што ўвайшоўшаму ў краму адчыняе прылавак.—Сядайце, вось,— падае сьвежае вэнскае.

— ... Дык будзьце ласкавы, выбачце: я от толькі распраўлюся з гэтымі,—паказвае за прылавак,

І вось цяпер чуваць, як „распраўляецца з гэтымі". Чуваць толькі асобныя словы. Ханіч кажа:

— ... Чаго ты стаіш, як пень?

— ... Куды ты прэшся, сьляпы ты ці што?

Ханіч кажа:

— ... Чаго ты стаіш каля вакна, як які-небудзь сабака.

Ханіч кажа... Але я—ня чую далей. Я ўжо згубіў вобраз Ханіча. Я ўжо... Мне здаецца, ад маёй гарачкі, што я цяпер у Руднянскім каапэратыве на Віцебшчыне. Я дзіўлюся з руднянскіх крамараў. Стаю і дзіўлюся што—о, за тры гады перамянілася ў краме столькі-то крамараў: а-я-яй!—Аляксей Бугаёў перамяніўся за тое, што растраціў 400 рублёў. Прышлося яму перамяняцца ў допры. Хведар Іванаў перамяніўся за тое, што растраціў 600 руб. Ён таксама перамяніўся ў тым месцы, дзе і Бугаёў. Андрэй Чухуноў, небарака, за растрату—застрэліўся і гэтым самым перамяніўся. А надойчы зусім новы крамар, Мікіта Якушэнка, і здаецца-ж надзейны быў, а толькі-на толькі за два тыдні— 60 рублёў растраціў. Так што і гэты, можна сказаць, будзе пераменьвацца.

— А-я-яй! Так што няма ніякага дзіва, што я стаю цяпер ды дзіўлюся.

І от пакуль бярэ мяне дзіва, дык перад маімі вачыма, як на далоні ўсё роўна, стаіць Брозьдзечынская крама на Аршаншчыне. Яна прывезла селядцоў і для таго, каб прадаць астачу „з нейкім пахам", астачу рыбы

